PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 45 (2060) ГОД XL БЕЛАСТОК 5 ЛІСТАПАДА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Гэтая птушка не адляцела.* Фота Віктара Волкава

*Яўген Мірановіч*

## Маркс усяго не прадбачыў

Чаму камуністычная рэвалюцыя выбухла ў Расіі, у краіне, дзе не было ніякіх прадпасылак для яе здзяйснення — на гэтае пытанне ўжо дзесяткі гадоў шукаюць адказу гісторыкі, філосафы, сацыёлагі, эканамісты. Нават марксісцкая тэорыя „класавай барацьбы" прадбачвала, што пралетарская рэвалюцыя пачнецца там, дзе будзе найбольш развітая прамысловасць, дзе рабочы клас дасягне такога стану свядомасці, што не дазволіць на эксплуатацыю, якая была „вынікам існавання акрэсленай уласнасці сродкаў прадукцыі". Расія, хаця пры канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў мела найвышэйшыя паказчыкі развіцця гаспадаркі, усё яшчэ аставалася сялянска-арыстакратычнай дзяржавай. Рабочы клас складаў толькі 9 працэнтаў насельніцтва, а яго класавую свядомасць і арганізаванасць нават няма сэнсу параўноўваць да такіх краін як Нямеччына, Францыя, Вялікабрытанія, дзе існавалі шматмільённыя прафсаюзы і мнагатысячныя сацыялістычныя партыі. Нямецкая сацыял-дэмакратычная партыя, напрыклад, у палове васьмідзесятых гадоў XIX стагоддзя налічвала паўтара мільёна членаў. У Расіі, у адрозненні ад Заходняй Еўропы, сацыял-дэмакратычныя партыі былі здамінаваныя ўсялякімі дзівакамі інтэлігенцкага і арыстакратычнага паходжання. Іх кантакт з рабочым класам быў вельмі абмежаваны, так як і іх уяўленне пра праблемы гэтага асяроддзя. Паводле марксісцкага сцэнарыя развіцця падзей у свеце, Расія павінна быць апошняй, дзе пралетарыят паўстане супраць буржуазіі.

Цяжка аднак пісаць пра Расію XIX стагоддзя ў сітуацыі, калі яе вобраз, створаны савецкай прапагандай і навукай, а таксама і польскай гістарыяграфіяй, не мае зашмат супольнага з той рэчаіснасцю. Гэта перш за ўсё была вельмі багатая краіна, а яе людскі і эканамічны патэнцыял шалёнымі тэмпамі набліжаў Расію да гаспадарчай магутнасці свету. З такой хуткасцю развівалася яшчэ толькі гаспадарка Японіі. Расія была таксама дзяржавай вялікай хрысціянскай міласэрнасці. На працягу 80 апошніх гадоў панавання дынастыі Раманавых суды імперыі выдалі толькі 896 смяротных прыгавораў, з чаго выканаліся 389. Астатнія ў выніку царскай ласкі былі адхілены. Бальшавікі, калі апынуліся пры ўладзе, расстрэльвалі кожнага дня тысячы людзей. І гэта былі асноўныя змены маральнасці эпохі, якая наступіла пасля 1917 года.

Рэформы, якія праводзіліся ў Расіі пры канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў, набліжалі гэтую дзяржаву да формы канстытуцыйнай манархіі. Расійская дума паслядоўна пераўтваралася ў нармальны парламент, у якім нават сацыялісты гаварылі што хацелі. Першая сусветная вайна пачалася ў вельмі некарысны для Расіі час, калі гаспадарка і палітычная сістэма былі ў стане вялікіх пераўтварэнняў. Сярод ваюючых краін толькі адна Расія мела сацыял-дэмакратычную партыю, якая заклікала нанесці ўдар па ўласнай арміі, гаспадарцы, дзяржаўных структурах. Была гэта бальшавіцкая фракцыя Сацыял-дэмакратычнай партыі Расіі, якою кіраваў супрацоўнік нямецкай разведкі Уладзімір Ульянаў, вядомы пад псеўданімам Ленін. Пакуль руская армія і гаспадарка пераносілі цяжар вайны, агітацыя бальшавікоў не мела вялікага значэння. Расію згубіў параліч транспарту. На ўсходзе і поўдні краіны былі харчовыя прадукты і сыравіна для прамысловасці. Вялікія цэнтры прадукцыі і канцэнтрацыі насельніцтва знаходзіліся на поўначы і захадзе. Чыгуначны транспарт тым часам працаваў на патрэбы фронту. Перамяшчанне сыравіны для прамысловасці, ацяплення Масквы і Петраграда, харчоў з Кубані, Сібіры і ўсходняй Украіны дайшло да поўнай дэзарганізацыі. Без сыравіны фабрыкі спынялі прадукцыю, рабочыя высылаліся на фронт або, як беспрацоўныя, дадому. Армія, якая не атрымлівала запасаў, магла толькі адступаць. Гэты балаган быў толькі на руку бальшавікам, якія заклікалі салдат да бунту супраць афіцэраў і да дэзерцірства, а ў вялікіх гарадах ад 1916 г. не спыняліся дэманстрацыі і страйкі ў фабрыках. Царская сям'я тым часам апынулася пад вялікім уплывам сібірскага мужыка Георгія Распуціна, які ў сваю чаргу кіраваны быў нямецкай разведкай і падказваў імператару такія рашэнні, якія паглыблялі крызіс у краіне. Маючы такі тыл, не стрымала б на фронце ніводная армія. Некалькі мільёнаў салдат з поўным узбраеннем на пачатку 1917 г. разлезлася па ўсёй краіне. Сітуацыя апынулася за межамі кантролю якога-небудзь цэнтра ўлады. Дарога на ўсход нямецкай арміі была амаль адкрытая. Банды ўзброеных былых салдат перадавалі лакальную ўладу кожнаму, хто толькі хацеў яе ўзяць і даць нейкі занятак здэмаралізаваным ветэранам. 15 сакавіка цар Мікалай II добраахвотна адрокся ад імператарскага прастола, але ніхто з яго сям'і не захацеў прадаўжаць панаванне дынастыі Раманавых. Першы рэспубліканскі ўрад, якім кіраваў князь Георгій Львоў, прадставіў радыкальныя прапановы выратавання дзяржавы, якая цэлы час была ў стане вайны з Нямеччынай, Аўстра-Венгрыяй і Турцыяй. Урад Львова аднак зусім не ведаў як справіцца з падбураным уся-

*Працяг на стар. 4*

## БАЮСЯ ГЕАПАЛІТЫКІ

У чацвёртым за гэты год нумары інфармацыйнага бюлетэня самаўрадавага каталіцка-правага клуба „Jedność" у Бельску-Падляшскім рэдактары, між іншым, дэкларуюць: „Nie będziemy także stronić od informacji historycznych dotyczących naszego miasta i okolic, bo przecież nauka płynąca z doświadczeń przeszłości stanowi o naszej tożsamości narodowej, która właśnie **tu i tutaj** (падкрэслена ў арыгінале, павінна быць: tu i teraz — М. В.), wobec wzrostu aktywności mniejszości narodowych, jest ogromnie ważna dla naszej przyszłości".

— *Ці Вы супраць актыўнасці нацыянальных меншасцей у публічным жыцці?* — **запытаўся я ў члена Гарадской управы ад клуба „Jedność", адначасна дырэктара Пачатковай школы н-р 2, УЛАДЗІСЛАВА ЯГЕЛЫ.**

— Наша дзяржава дазваляе такую актыўнасць і пакуль яна ў межах закона, я не маю нічога супраць. Аднак не можа быць яна скіравана супраць каго-небудзь, а ўжо асабліва супраць палякаў. Я шаную чалавека, які прызнаецца ў прыналежнасці да меншасці. Пакуль меншасць дзейнічае на карысць захавання сваёй традыцыі, мовы, развіцця культуры, я гэтага не баюся. Я баюся аднаго — выбуху нацыяналізму. Я не баюся беларусаў, бо я побач іх жыву, я баюся беларускіх нацыяналістаў.

— *Каго, канкрэтна, маеце на ўвазе?*

— Я не маю канкрэтных прыкладаў. Мае разважанні ў кантэксце падзей у Цэнтральнаўсходняй Еўропе, перш-наперш у кантэксце некаторых рашэнняў прэзідэнта Лукашэнкі. Маю тут на ўвазе тое, што пакідаюцца ядзерныя ракеты, што ўпускаюцца зноў расейцы на Беларусь і аднаўляецца там гегемонія Масквы. Калі наша айчына мае ісці ў Еўропу, а ў Бельску ці ў Гайнаўцы знайшліся б сілы, якія сімпатызавалі б з тым, што цяпер робіцца ў Беларусі, было б гэта небяспечным нам, пражываючым тут палякам, як і нашым рубяжам. Я баюся, каб не ўзнікла жаданне рэвізіі дзяржаўнай мяжы.

— *Няўжо вы думаеце, што хтосьці ў Бельску ці Гайнаўцы можа паўплываць на кірунак, у якім пойдзе Польшча, ці ў чым-небудзь пагражаць дзяржаве?*

— На дзяржаву ў цэлым — не. Але на кшталт тутэйшых органаў самакіравання і на спосаб успрымання імі III Рэчы Паспалітай — напэўна так. Я, праўду сказаўшы, не разумею, як хтосьці з польскім пашпартам і ўсімі выцякаючымі з гэтага карысцямі і стратамі, не хоча дагаварыцца з палякам у Рэпы Паспалітай.

— *Я разумею, што вы зноў гаворыце генеральна, не маючы нікога канкрэтнага на думцы.*

— Так, так. У мяне моцна закаранелае пачуццё патрыятызму, таму гавару пра шырэйшыя за наш бельскі панадворак справы. Блізка мне, напрыклад, трактоўка літоўскімі, беларускімі ці ўкраінскімі ўладамі тамтэйшых палякаў. Нядаўна я чытаў у „Słowie. Dzienniku Katolickim", што літоўцы забаранілі маліцца па-польску ў касцёлах. У нядзелю збіралі мы ў нашай дыяцэзіі, на заклік кардынала Казі-

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Nowy cham w nowych czasach? Jaki styl życia dominuje w III RP? Jaki jest Polak oglądany z bliska? Pierwsze wrażenie: modniej ubrany, ładniej pachnący, ale mniej kulturalny, inaczej mówiąc — bardziej chamski.*

*Na parkingu przed wytworną restauracją stał obok drogiego samochodu mężczyzna okazałej tuszy w ciemnym garniturze, od którego wyraźnie odcinała się nieskazitelna biel skarpetek, trzymał w ręku telefon komórkowy i rozmawiał, jak się można domyślać, z damą swego serca: „Nie dam ci, kurwa, tych pieniędzy, nie p...., nie dostaniesz tej forsy i odp... się ode mnie".*

*W Polsce nadal panoszy się peerelowski cham, mimo że komunizm, który go stworzył, już upadł. Cham łatwo przesunął się w nowe czasy i czuje się w nich lepiej niż w Polsce Ludowej. Zmieniła się typologia chamstwa. Zniknęło chamstwo kolejkowe, ponieważ nie ma kolejek. Rozkwita chamstwo automobilowe. Na ulicach ciaśniej, a samochody coraz szersze, a cham musi jechać.*

*Cham króluje także na stadionach sportowych. Gdzieś zginął w nowych czasach peerelowski snob — typ charakterystyczny dla lat minionych. Postać wówczas cokolwiek ośmiewana, ale dzisiaj wspominana z sentymentem. Kupował „Ulissesa", żeby postawić go na półkę, wychodził ze skóry, żeby dostać się na premierę teatralną. Ogólna presja była taka, że nawet ktoś kto nie czytał, nie bywał, udawał, że często i regularnie chodzi na koncerty. Po prostu wstyd było być człowiekiem niekulturalnym. Dziś do dobrego tonu należy mówienie, że nie było się w teatrze, w kinie, że się książek nie czyta. W wyższych sferach rozmawia się o samochodach i zagranicznych wczasach.*

*Polityka, nr 42*

* * *

*Najlepiej dziś się powodzi, ogólnie rzecz biorąc, politycznemu warcholstwu w Polsce. Przestarzałe rolnictwo? Pal diabli, byle by tylko Waldemar Pawlak został prezydentem czy premierem. A jeśli chodzi o prawicę, to przykro nawet powiedzieć, ale potrzebna jest porządna konserwa, bo to co mamy jest jakieś przedpotopowe sprzed 100 lat i to z programem jakiegoś dziwacznego komunistycznego socjalizmu, który został porządnie pokropiony i ochrzczony,* — сказаў Станіслаў Лем.

*Polityka, nr 41*

* * *

*Kandydatów na prezydenta jest wielu, lecz Wałęsa jest jeden! Dla Lecha Wałęsy nie nadszedł jeszcze czas spokojnego życia. Wałęsa wciąż jest więźniem przeszłości i przyszłości. On elektryk, ojciec „Solidarności", laureat Nagrody Nobla, Polak, wierny Bogu i Ojczyźnie od 15-tu lat prowadzi Naród od zniewolenia do wolności, od ubóstwa do pomyślności, od niegodziwości do sprawiedliwości.*

*Polska, my, potrzebujemy wciąż Lecha Wałęsy!*

*Rozwaga i Solidarność Wydanie specjalne*

І хто б падумаў, што Леху такі разважны, разумны, інтэлігентны, справядлівы, далікатны. У тэлебачанні, дзе часта выступае, не заўсёды гэта відаць. Але вядома хто кіруе тэлебачаннем.

* * *

*Stoimy przed pytaniem: kogo na szefa? Oto mój pogląd: — jesteśmy krajem z pogranicza. Między dwoma imperiami: północnoamerykańskim i euroazjatyckim, USA i Rosją. Przynależność do jednego lub drugiego niewiele tylko zależy od nas samych. Gdybym miał wolny wybór, ale tylko jednego z dwojga: trafić jako koń albo do niemieckiego bauera albo do białoruskiego chazjaina, to błagałbym Przedwiecznego o przydział do tego pierwszego,* — піша Альфрэд Рахальскі.

*Najwyższy Czas, nr 42*

Спадар Альфрэд нават не ведае, што нямецкі баўэр добра корміць каня, каб меў ён лепшую вагу, калі яго будзе прадаваць на мяса. Беларускі „хазяін" каня лічыць найчасцей найлепшым сябрам. Выбар спадара Альфрэда заключаецца ў тым, ці захоча быць элегантнай кансервай для туркаў ці сабак („Пэдыгры пал") ці кабылай, якая жуе не надта апетытнае сена, а авес пакаштаваць мае нагоду толькі некалькі разоў у год.

* * *

*Są dwa elektoraty. Jeden Kwaśniewskiego, który jest zdyscyplinowany, i drugi — Tymińskiego. To są te pijaczki, tacy drobni murarze, ci zwalniani... I oni są solidarni na swój sposób. Zagłosują na Leppera. I to jest niebezpieczny elektorat,* — сказаў Лех Валэнса.

*Gazeta Wyborcza, nr 240*

* * *

*Wzywam Prezydenta na pojedynek, jeden na jednego, tylko nas dwóch,* — піша ў спецыяльнай заяве ад 16.10.1995 г. Анджэй Лепер у адказ на выказванне прэзідэнта.

* * *

*Niedziela 15 października była najpiękniejszym dniem tygodnia, bowiem w telewizji nie prezentował się żaden z kandydatów na prezydenta.*

*Gazeta Współczesna, nr 200*

* * *

*Żebym miał pistolet, obok Olszewskiego, to bym go zastrzelił,* — сказаў Лех Валэнса, успамінаючы свае кантакты з былым прэм'ер-міністрам.

*Gazeta Wyborcza, nr 240*

* * *

*Чаму Расея пакуль не жадае аб'ядноўвацца з Беларусяй. Найбольш прасталінейны і лагічны адказ — эканоміка: капіталістычная Расея няздольная сёньня „пераварыць" дзесяцімільённую краіну з сацыялістычнай формай уласнасьці. Ёсьць яшчэ даволі рамантычны аргумент: нібыта расейскае кіраўніцтва баіцца Лукашэнкі як патэнцыяльнага кандыдата на расейскі прастол. Найбольш праўдападобнай зьяўляецца версія аб нежаданьні расейскага кіраўніцтва фарсіраваць інтэграцыйныя працэсы. „Беларуская карта" павінна зьявіцца ў самы адказны момант — падчас прэзыдэнцкіх выбараў — і стаць самым казырным тузом. Пры гэтым Лукашэнку не пакінуць правоў на „аўтарства" ў гэтым сцэнары — будзе зроблена ўсё, каб ідэя аб'яднаньня дзьвюх дзяржаваў атаясамлівалася ў сьвядомасьці расейскіх выбаршчыкаў зь імёнамі расейскіх кіраўнікоў — Ельцына або Чарнамырдзіна.*

*Свабода, н-р 39*

## З мінулага тыдня

**Арганізацыя Аб'яднаных Нацый** адзначала 50-годдзе свайго існавання. З гэтай нагоды ў Нью-Йорк на юбілейную асамблею прыехала з усяго свету 130 дзяржаўных мужоў. Прамаўляючы на форуме Генеральнай Асамблеі прэм'ер-міністр **Юзэф Алексы** сказаў, што падставай польскай замежнай палітыкі з'яўляецца імкненне да Еўропы. „Не абазначае гэта, што Польшча павернецца да іншых плячамі, ці-то да Расеі, Украіны, Беларусі, балтыйскіх рэспублік на усходзе, ці-то да краін Трэцяга Свету, уключаючы ў гэта Кітай на поўдні", — дадаў.

**Дні сакральнай музыкі** — арганізатарам якіх выступіла Польскае Радыё Беласток — далі магчымасць пазнаёміць шырокае кола слухачоў з даўнімі і сучаснымі творамі рэлігійнага характару. На працягу некалькіх дзён у касцёлах і цэрквах Беластока выступілі каталіцкія і праваслаўныя хоры. Гэтымі апошнімі дырыжыравалі а. пратадыякан **Васіль Дубэц, Багдан Пура**, субдыякан **Аляксандр Лысынкевіч**.

У Беластоку завяршыў работу кірмаш **Роль-Экспа'95**. У ліку ўзнагароджаных фірмаў і ўстаноў апынуліся гродзенскія ўдзельнікі гэтага мерапрыемства. За набор вяндлін кубак і дыплом атрымаў **Гродзенскі мясакамбінат**, а за заслугі ў сельскагаспадарчай інфармацыі і прапагандаванні прадпрымальніцтва вылучаны быў Гродзенскі гарадскі выканаўчы камітэт.

**Еўрарэгіён „Нёман"** ствараецца па ініцыятыве III Балтыйскага гаспадарчага форуму на польска-расейска-літоўска-беларускім паграніччы. Будзе ён самаўрадавай арганізацыяй, якая паспрыяе выкарыстанню новых форм актывізацыі лакальных грамадскасцей і развіццю розных галін жыцця, галоўным чынам гаспадаркі. На польскім баку еўрарэгіён абыме Сувальскае і частку Ольштынскага і Беластоцкага ваяводстваў.

**Міжнародны сімпозіум** на тэму барацьбы з туберкулёзам арганізавалі ў Беластоку Клініка хвароб лёгкіх і туберкуёзу Медыцынскай акадэміі і Фонд кантактаў гарадоў Эйндхавен—Беласток. У сімпозіуме ўдзельнічалі навукоўцы і спецыялісты па барацьбе з туберкулёзам з галандскага горада Эйндхавен, Беластока і **Менска**. У сталіцы Беларусі, у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС і эканамічнага крызісу, паказчык захворванняў на сухоты (на сто тысяч жыхароў) павысіўся з 24 на 42.

**IV Фестываль украінскай культуры** адбыўся ў беластоцкім кінатэатры „Форум". Побач калектываў „Вэрэс" з Роўна і „Вэрховына" з Варшавы выступалі таксама гурты з Беласточчыны — „Каліна" з Дашоў, „Незабудкі" з Курашава, „Родына" з Дубяжына, некаторыя з якіх вядомыя нашым чытачам як удзельнікі і лаўрэаты беларускіх фестываляў і аглядаў. Старшыня беластоцкага гуртка Саюза ўкраінцаў Падляшша **Уладзімір Якімчук** абсурдным парадоксам назваў сітуацыю, калі на беларускіх фестывалях выступаюць іхныя калектывы, якія спяваюць украінскія народныя песні і адзначыў, што чыста беларускіх фальклорных калектываў на Падляшшы зусім мала. Па яговых падліках у Бельску жыве 15 тысяч украінцаў, а ў Беластоку — 50 тысяч. Як так далей пойдзе, то неўзабаве украінскія дзеячы аспрэчаць таксама беларускасць нашага тыднёвіка.

**У Белавежскай пушчы** здадзена турыстам у карыстанне г.зв. **Месца моцы**, аб якім неадночы пісаў на старонках нашага тыднёвіка **Пётр Байко**. Згаданае месца — гэта невялікая паляна з канцэнтрычна размешчанымі камянямі. Да каменнага круга вядзе 400-метровая дрэўляная кладка. Белавежскія старажылы расказваюць, што чалавек можа набыць таемную моц, калі дакранецца да гэтых валуноў.

## Праз тыдзень у „Ніве"

- У Бельску шукаюць уласніка чатырох будынкаў.
- Урадавая дэлегацыя Беларусі ў школах Беласточчыны.
- Як спявалі барды.
- Аб чым гаварылі гісторыкі ў Беластоку.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Спікер парламента пратэстуе...

Старшыня парламента Беларусі Мячэслаў Грыб заявіў аб намеры ініцыіраваць разбор у Канстытуцыйным судзе аб адпаведнасці з канстытуцыяй указаў аб назначэнні віцэ-прэм'ерамі былога кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Леаніда Сініцына і былога кіраўніка прэзідэнцкай службы кантролю Васіля Даўгалёва, а таксама аб назначэнні кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта былога віцэ-прэм'ера Міхаіла Мясніковіча. Старшыня парламента сцвярджае, што згодна з канстытуцыяй краіны віцэ-прэм'еры і сілавыя міністры назначаюцца за згоды Вярхоўнага Савета. У той жа час парламент не даваў згоды на назначэнні названых асоб.

### ... а прэзідэнт назначае

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб вызваленні Юрыя Захаранкі ад пасады міністра ўнутраных спраў. Выконваючым абавязкі кіраўніка гэтага сілавога ведамства назначаны дзяржсакратар Савета Бяспекі РБ Віктар Шэйман. Згодна з распараджэннем А. Лукашэнкі дэкан факультэта журналістыкі БДУ Алег Слука прызначаны памочнікам прэзідэнта.

### Дарэмныя спадзяванні

Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб заявіў, што пленарныя пасяджэнні XVIII сесіі ВС XII склікання не будуць адноўлены, пакуль урад не зробіць справаздачу дэпутатам аб выкананні закона аб бюджэце за гэты год і праграмы неадкладных захадаў па выхадзе эканомікі з крызісу ды не падасць законапраект аб бюджэце на 1996 г. Ранейшыя запыты Грыба на гэты конт у прэзідэнта засталіся без адказу, таму 18 кастрычніка старшыня ВС чарговы раз звярнуўся да кіраўніка дзяржавы, спадзеючыся, што пасля вынясення заключэння Канстытуцыйнага суда аб легітымнасці ВС XII склікання Лукашэнка дазволіць ураду зрабіць справаздачу заканадаўчай галіне ўлады аб эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы.

### Заявы і пратэсты

У сувязі з пазбаўленнем газет „Народная воля", „Беларуская дзелавая газета" і іншых магчымасці друкавацца, Аб'яднаная грамадзянская партыя выступіла з заявай, у якой змяшчаецца зварот да прэзідэнта Беларусі з патрабаваннем умяшацца для спынення беззаконнасці і прыцягнення вінаватых да адказнасці. Негатыўнае стаўленне да прыпынення выпуску вышэйназваных газет выказаў і Свабодны прафсаюз Беларусі. З пратэстам супраць дзеянняў выканаўчай улады выступіў Сойм БНФ.

### Школа банкіраў

Нядоўга аказалася без справы былы старшыня Нацыянальнага банка прафесар Станіслаў Багданкевіч. Ён абраны прэзідэнтам новай недзяржаўнай Акадэміі банкаўскага і фінансавага бізнесу. Гэтая ўстанова будзе своеасаблівай вышэйшай школай ведаў для банкіраў Беларусі. Лекцыі тут пачалі ўжо чытаць спецыялісты з ААН, Германіі і іншых краін. Прадугледжаны таксама стажыроўкі беларускіх спецыялістаў за мяжой.

### Сталіцы супрацоўнічаюць

У другой палове кастрычніка ў сталіцы рэспублікі праходзілі Дні медыцыны і прафсаюзаў „Менск—Варшава". Праграма дзён была вельмі насычаная. Гэта былі рабочыя сустрэчы кіраўніцтва сталіц дзвюх дзяржаў, наведванні лячэбных устаноў Менска і Нясвіжа, беларуска-польская практычна-навуковая канферэнцыя. Афіцыйную дэлегацыю Польшчы ўзначальваў пасол Сейма Лешэк Шыманьчык. У рамках гэтага мерапрыемства адбыўся сумесны семінар па абмене вопыту грамадскіх інспектараў па ахове працы прафсаюза работнікаў аховы здароўя Польшчы і Беларусі.

### Чэргі на мяжы

Паводле слоў начальніка мытні Заходні Буг Вячаслава Асінцава, за апошнія дні ўдалося значна скараціць чэргі на грузавым пагранічным пераходзе Казловічы—Кукурыкі. На польскай тэрыторыі калоны шматтонных грузавікоў расцягнуліся амаль на сорак кіламетраў — аж да Белай-Падляшскай. Разрадзіць сітуацыю польскім мытнікам дапамаглі іх беларускія калегі. Аднак невыключана, што такое можа паўтарыцца. Кіраўнікі пагранічных службаў бачаць выйсце ў стварэнні спецыяльных тэрміналаў для афармлення грузаў. Для Беларусі гэта будзе танней, чым традыцыйнае пашырэнне пагранпераходаў.

### Экспартны рэкет

Нядаўна пад Варшавай чатырма невядомымі — па некаторых звестках жыхарамі Беларусі — былі абрабаваны два расейскія грамадзяне. Злачынцы адабралі ў жыхароў Чувашыі два аўтамабілі „Жыгулі", якія тыя купілі ў Германіі і пераганялі пад заказ на радзіму, а таксама дакументы на гэтыя машыны, грошы і нават танныя наручныя гадзіннікі. Самі вадзіцелі былі звязаны і кінуты ў лесе.

**Галоўнаму рэдактару Беларускага тыднёвіка ў Польшчы „Ніва"**
**сп. Яўгену МІРАНОВІЧУ**

Шаноўны сп. рэдактар,

Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы мае гонар перадаць „Ніве" ў дар з правам поўнага і беззваротнага карыстання тэлекс пад рэгістрацыйным нумарам 55/Т/92.

Дазвольце выразіць спадзяванне, што выкарыстанне гэтага апарата будзе спрыяць эфектыўнасці ў працы вядомага сярод беларусаў свету тыднёвіка, якім з'яўляецца „Ніва".

З пажаданнем поспехаў,

**Часовы паверааны ў справах Рэспублікі Беларусь у Польшчы**
**М. Часноўскі**

**Рэдакцыя „Нівы" шчыра дзякуе Пасольству Рэспублікі Беларусь, а асабліва спадару Мечыславу Часноўскаму за падарак. Маем надзею, што тэлекс палегчыць нам наладжванне больш шырокіх кантактаў са светам і паспрыяе нашай штодзённай працы.**

**Галоўны рэдактар „Нівы"**
**Яўген Міранові̇ч**

## Чысты лес

Вучні старэйшых класаў Пачатковай школы ў Міхалове разам з настаўніцамі Эвай Главацкай, Крыстынай Грэсь і Агнешкай Залескай добраўпарадкавалі ўзлессе Кнышынскай пушчы паабапал шумнай асфальтавай шашы з Міхалова ў напрамку Жэдні. Пазбіралі яны старыя шыны і пакрышкі, розныя аўтамабільныя часткі, ложкі, усялякія бутэлькі ды макулатуру. Вывозілі гэты лом і іншае смецце трактарамі з прычэпамі на месца звалкі. У лесе стала прыгажэй.

На заканчэнне акцыі было супольнае вогнішча ды печаныя кілбаскі. Са школьнікамі сустрэўся надлясніч Здзіслаў Баско. Ён падзякаваў усім удзельнікам гэтай патрэбнай і вельмі карыснай акцыі.

**Я.Ц.**

## Ахоўнікі яднаюцца

25 верасня г.г. Ваяводскі суд у Беластоку зарэгістраваў Таварыства аховы Белавежскай пушчы. Ініцыятыўная група з шаснаццаці чалавек, пераважна з белавежскіх навукоўцаў, падрыхтоўвае зараз сход, на якім будуць выбраны ўлады Таварыства, праводзіць таксама рэгістрацыю членаў. Жаданне групы — уключыць у ТАБП прадстаўнікоў усіх слаёў мясцовага насельніцтва, каб было яно як мага найшырэй рэпрэзентаванае.

Мэтай ТАБП ёсць перш за ўсё кансерватарская ахова натуральных экасістэм Белавежскай пушчы і вяртанне натуральнага характару дэфармаванаму асяроддзю. Таварыства будзе прыцягваць увагу мясцовага насельніцтва да пытанняў аховы пушчы і праэкалагічнай гаспадарчай дзейнасці, а таксама аховы мясцовых культурных каштоўнасцей.

Сядзібай улад ТАБП будзе, зразумела, Белавежа.

**Пётр Байко**

## У Кляшчэлях
## Неўзабаве ў новай школе

Расце новы прыгожы будынак Пачатковай школы ў Кляшчэлях. Зараз у сярэдзіне яго малююць, кладуць керамічную плітку, паркет. Будуюць таксама гімнастычны зал.

Дзеці пачнуць навуку ў новай школе — так прадбачвае бурмістр Аляксандр Сяліцкі — пасля зімніх канікул, у лютым 1996 года.

Будаўнікам кляшчэлеўскай школы жадаем поспехаў у завяршэнні пабудовы. Вучні будуць Вам вельмі ўдзячны!

## Лепшая дарога

Нядаўна закончылі класці асфальт на дарозе з Кляшчэляў у Дабрываду. Найперш паклалі яго на брукаванай Дабрывадскай вуліцы ў Кляшчэлях — даўжынёю ў 2,8 кіламетра, затым на апошнім канцавым адрэзку.

Варта дадаць, што да гэтага моманту дзейнічаў Грамадскі камітэт пабудовы дарогі пад старшынствам Васіля Крупіча.

У верасні гэтага года ў Кляшчэлях адрамантавалі таксама вуліцу Каляёвую (Чыгуначную). На ёй паклалі асфальт і паабапал яе — новыя тратуарныя пліты.

**(яц)**

## Новае ў Міхалоўскай гміне

У Міхалове шпаркімі тэмпамі ідзе пабудова пачатковай школы

Жыхары Новай Волі маюць ужо ваду з крана. Падключылі яе ў ліпені гэтага года. Зараз пракладаюць водаправод у вёсцы Саколе.

Неўзабаве пачне працаваць вадасцёкавая ачышчальня ў Міхалове. Тут у рэшце рэшт пачалі рамонт вуліцы Геранімоўскай.

Адрамантавалі пажарныя дэпо ў Новай Волі і Ялоўцы.

У жыллёвым пасёлку ў Бандарах мадэрнізавалі кацельню. Неўзабаве ў згаданай вёсцы пачне працаваць філіял асяродка здароўя.

**(яц)**

# БАЮСЯ ГЕАПАЛІТЫКІ

*Працяг са стар. 1*

міра Свёнтка, дапамогу палякам у Беларусі. Я разумею, што там больш цяжкае жыццё, але і лічу, што нашая дэмакратыя больш поўная, развітая. Нашыя меншасці на ўсходняй сцяне маюцца лепш. І добра ім, што яны тут нарадзіліся. Я прысутнічаў у адкрыцці гімнастычнай залы пры Пачатковай школе н-р 3 і падумаў сабе тады, Божа мой, добра было б дажыць адкрыцця польскай школы — не гімнастычнай залы, школы — у Гродне, на якую б грошы далі беларускія ўлады.

*— Вы глядзелі ў тэлебачанні рэпартаж з закладкі краевугольнага каменя пад польскую школу ў Гродне?*

— Так, бачыў. Але ж тую пабудову фінансуе „Wspólnota Polska" прафесара Стэльмахоўскага. Цяпер такая сітуацыя, што мы будуем польскія школы на ўсходзе і школы для меншасцей у Польшчы: беларускі ліцэй у Гайнаўцы, зала ў „тройцы", а ёсць жа яшчэ літоўская школа ў Пуньску, украінская ў Гурове-Ілавецкім і так далей.

*— Якое, прабачце, дачыненне да таго, што робіць у Менску прэзідэнт Лукашэнка мае бельскі беларус з польскім пашпартам? Ці не думаеце Вы, што такі падыход, як вы нашым, так мы вашым, паставіць меншасці паабапал мяжы ў становішча заложнікаў дзяржаўнай палітыкі?*

— Я абсалютна гэтага не хачу, але неяк жа, да чагосьці раўняць трэба. У нас ёсць прыклады, як будаваць узаемаразуменне між рознымі супольнасцямі. Я з'яўляюся старшынёй аддзела „Civitas Christiana" ў Бельску і меў гонар нядаўна прысутнічаць у экуменічнай імшы ў каталіцкім касцёле з удзелам праваслаўных, баптыстаў ды іншых канфесій. Надзвычай прыгожае слова ад алтара, амаль са слязамі ў вачах, сказаў айцец дэкан Юры Такарэўскі. Пытаўся ён, дзе, як не ў гэтым месцы, шукаць прымірэння? Ведаю, што не так даўно таксама ксёндз дэкан Альшэўскі гаварыў казанне ў царкве. Вось так менавіта будуецца сужыццё людзей розных нацыянальнасцей, розных рэлігій. Найгоршае, што ў нас магло б здарыцца, гэта выкарыстанне меншасці вонкавымі сіламі як дэструкцыйнага фактару, як пятай калоны. Нешта такое мела месца з петыцыяй аб далучэнні Беласточчыны да СССР.

*— Наколькі я ведаю, ніхто аўтарытэтна не пацвердзіў існавання такой петыцыі. Ці гэта не такі самы міф, як з нашага боку аб пазначаных крыжамі дзвярах праваслаўных у 1980 годзе?*

— Я не ведаю адкуль узялося пераканане, што ў такі спосаб значыліся кватэры праваслаўных. На маіх дзвярах, хоць я каталік, таксама быў крыж.

*— Што вы скажаце? Я да гэтай пары думаў, што такія крыжы існавалі толькі ў бўйным уяўленні нашых людзей. Дзякуй за размову.*

**Мікола Ваўранюк**

# Будні чыгуначнай Чаромхі

Многім чытачам Чаромха вядомая як чыгуначны вузел у Беластоцкім ваяводстве. Так яно было пры камуне.

Пастаянны гул вагонаў, грукат колаў і гудкі цягнікоў былі тады штодзённымі спадарожнікамі праязджаючых праз Чаромху пасажыраў. Адсюль можна было даехаць у любую мясціну ў краіне, паколькі спалучэнне з іншымі чыгуначнымі вузламі было вельмі зручнае. Станцыя была перапоўненая транзітнымі паяздамі з ГДР у СССР і назад да такой ступені, што часам трэба было іх накіроўваць на запасныя пуці ў суседнія станцыі. Дзяржаўная чыгунка была для многіх жыхароў Чаромхаўскай гміны адзінай крыніцай даходу. Даязджалі сюды на працу людзі з Гайнаўкі, Кляшчэль, Бельска-Падляшскага і навакольных вёсак.

А што зараз прадстаўляе сабою чыгуначная Чаромха? Вымершае каралеўства! Усюды царствуе пустэча і цішыня. Цераз вагонны парк можна ўбачыць другі бок Чаромхі — некалькі дзесяткаў вагонных шкілетаў чакаюць у чарзе да дэпо, дзе ператвораць іх у кучу лому. Нейкі самотны цягнік з цыстэрнамі са Свіслачы ў плоцкую Петрахімію. І гэта ўсё. Нават пасажырскіх цягнікоў менш стала. У рамках рэструктурызацыі Цэнтральная дырэкцыя ПКП ліквідавала некаторыя паязды. Скарачаюцца кадры, а рабочыя папаўняюць рады беспрацоўных. Многія чыгуначнікі кожны дзень ставяць сабе пытанне: а што будзе заўтра?

Гібее чыгуначная станцыя. Яе месца перахапіў аўтамабільны транспарт. Ці расквітнее яшчэ Чаромха? На маю думку, не вернуцца ўжо спрыяльныя чыгуначнікам Чаромхі часы. Сцвярджаю гэтае хаця б на аснове прыгожага адміністрацыйнага будынка станцыі, які зараз пустуе. Карыстаецца ім усяго некалькі чыгуначных кантораў. Частку памяшканняў перанялі тамажнікі і пагранічнікі. Цяпер перад гэтымі службамі адкрылася новая перспектыва. Спрыяюць гэтаму чыгуначны і аўтамабільны пагранічныя пераходы з Беларуссю.

**Уладзімір Сідарук**

# З НАГОДЫ „ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА"

Яшчэ не так даўно 7 лістапада ў Польшчы адзначалася пры заангажаванні цэлага дзяржаўнага апарату, а ва ўсялякіх святкаваннях прымаў удзел амаль кожны грамадзянін краіны, нягледзячы на яго асабістыя адносіны да падзеяў, якіх сімвалам была згаданая дата.

Ужо пры канцы лета працоўныя калектывы заяўлялі ў сродках масавай інфармацыі, што для ўшанавання памяці ўгодкаў „Вялікага Кастрычніка" забавязваюцца „выканаць план у 120-ці працэнтах". З партрэтаў Леніна, Маркса і Энгельса, якія ўпрыгожвалі вышэйшыя ўстановы, здымалі слаі пылу, быццам бы з іконаў перад прыхадскім святам. У школах святочны настрой пачынаўся ўжо ў палове кастрычніка. Настаўнікі рыхтавалі вучняў да ўрачыстых лінеек і вечарын. На ўроках расейскай і польскай моў малышы вывучалі фрагменты паэм пра прадбачыўшага будучыню на некалькі стагоддзяў Ільіча, вялікага стратэга Варашылава, адважнага і адданага рэвалюцыі Дзяржынскага, спявалі песні пра Будзённага і чырвоную кавалерыю, пра ўзаемную пашану і любоў працоўных мас усяго свету.

З якім эмацыянальным заангажаваннем дзесяцігадовыя дзяўчаткі і хлапчукі дэкламавалі вершы пра адданасць нейкага дзядзі Леніна справе агульнага шчасця чалавецтва, пра яго захапленне прыродай, жыццём простых людзей, зацікаўленне навукай і культурай. Запрошаным на вечарыну бацькам часам у вачах слёзы круціліся, калі пачулі, як іх дзеткі згодным хорам заспявалі „Шырака страна мая радная" або „Мы з Будзённым хадзілі..."

Вучоныя некалькі месяцаў рыхтаваліся да розных канферэнцый, на якіх даказвалі, што ноччу з 6 на 7 лістапада 1917 г. была знішчаная эксплуатацыя чалавека чалавекам, створана дзяржава рабочых і сялян, пачалася новая эра — эра крушэння капіталізму і трыумфу камунізму, што рэвалюцыя змяніла гісторыю, рабочы клас паставіла ў цэнтр сучаснай эпохі, вызначыла шляхі сапраўднай дэмакратыі, працоўным масам адкрыла дарогу да лепшай будучыні, пачала працэс змагання за мір ва ўсім свеце.

Партыйныя дзеячы арганізавалі сходы актыву, якія канчаліся недзе на досвітку. На наступны дзень найчасцей цяжка было ім змагацца за інтарэсы рабочага класа.

Журналісты пісалі ў газетах вялікія артыкулы пра падзеі 1917 г., партрэты „правадыра рабочага класа" абавязкова змяшчаліся на першай старонцы часопісаў. Нават часопіс аматараў сабакаводства замест традыцыйнай сабачай морды на вокладцы змяшчаў партрэт нейкага еўразіяцкага асобеня.

Па радыё безупынна гучалі песні чэкістаў і чырвонаармейцаў, вяліся гутаркі з удзельнікамі гістарычнага перавароту, якіх, дзіва дзіўнае, сотні тады яшчэ пражывалі на Беласточчыне. Размнажаліся яны з году ў год, так як цяпер акаўцы.

У тэлебачанні дэманстраваліся мастацкія і дакументальныя фільмы, у якіх высакародныя маладыя камісары наводзілі парадак у Расіі і змагаліся за шчасце рабочых і сялян з амаральнымі царскімі афіцэрамі, кулакамі, памешчыкамі і ўсялякімі іншымі ворагамі працоўных мас.

7 лістапада быў выхадным днём. Рабочы клас сапраўды годна адзначаў свае дасягненні ў барацьбе за пашырэнне сацыялізму. Дзень раней продаж гарэлкі ў крамах значна павышалася. Вечарам з непасрэднай трансляцыі з Масквы палякі маглі пабачыць, як яшчэ больш узорна можна было б адзначаць тую незвычайную падзею ў гісторыі чалавецтва.

**Васіль Кургановіч**

# Цёзкаў канклаў

Надыходзіць пара прэзідэнцкіх выбараў у Польшчы. У апытаннях агенцтваў даследавання грамадскай думкі найбольш людзей выказваецца за кандыдатурай Аляксандра Квасьнеўскага, які выразна апярэджвае апошніх кандыдатаў. У перадвыбарах, якія адбыліся ў Вжэсьні, атрымаў ён амаль палову галасоў. Хаця некаторыя аналітыкі і журналісты прытрымоўваюцца погляду, што гэта не ён, а нехта другі выйграе выбары, мне ўсё-ткі здаецца, што гэта толькі іх прапагандысцкія спекуляцыі, якім цяжка будзе здзяйсніцца. Нават калі і духавенства закліча галасаваць супраць Квасьнеўскага, не ўпэўнены я, што нават вышаўшыя са святыняў бабулькі паслухаюць сваіх пастыраў: моцна ўжо многім з іх Квасьнеўскі падабаецца так, папросту. У такім выпадку трэба ў Польшчы спадзявацца такога выніку, якім закончыліся прэзідэнцкія выбары ў Беларусі. Тычыцца гэта таксама другога тура: не ўсе тыя, што прагаласуюць у першым на тых кандыдатаў, якія адпадуць, пойдуць паўторна, а калі і пойдуць, дык напэўна далёка не ўсе будуць галасаваць супраць Квасьнеўскага. Такім чынам выглядае на тое, што будзем мець прэзідэнтам яшчэ аднаго Сашку. Відаць мой нябесны заступнік мае нейкае прэзідэнцкае дзяжурства і зусім бессакрэтна цягне за сваімі. Варта прыгадаць, што і ў мінулым маім цёзкам цалкам нядрэнна шанцавала. Найбольш бадай вядомым дзяржаўным дзеячам за ўсю вядомую нам гісторыю быў Аляксандр Македонскі, якога назвалі Вялікім з увагі, перад усім, на яго агромністыя заваёвы, якія ахапілі амаль увесь тагачасны свет. Ды і пазней бывалі таксама Аляксандры, якія многа чым праславіліся. Ратнымі подзвігамі здабылі славу Неўскі, Сувораў, Калчак, Пеціон, Фарнезе, Мэк-Джыліўрэй. Шырокавядомы кампазітары Барадзін, Глазуноў, Скрабін, Скарлаці, Страдэла; жывапісцы і скульптары: Альгардзі, Кэлдэр, Дэйвіс, Архіпенка, Джэксан; пісьменнікі і паэты: Блок, Фадзееў, Салжаніцын, Пушкін, Манцоні, два Дзюма; вучоныя: Апарын, Вольта, Агасіц, Баумгартэн, Бэл (канструктар тэлефона), Гумбальт, Макензі, Пракоф'еў-Северскі (распрацаваў заправку ў палёце), Вільсан, Лурыя; спартсмены: Алёхін, Кліўленд; рэлігійныя дзеячы: Кэмпбэл, Хэндарсан. Шырокавядомымі сталі рымскія папы, якія прысвоілі сабе гэтае імя: Аляксандр III (Бандынелі) і Аляксандр VI (Борхія), які з Ваноццай Катанеі меў чацвёра дзяцей з ліку якіх славутая сваёй прыгажосцю Лукрэцыя, якая за сваю багатую біяграфію тры разы выходзіла замуж. Яе бацька, Радрыга Борхія ў 1492 годзе, дзякуючы багатым падаркам (сёння яны называюцца хабарамі) амаль усім удзельнікам канклава (так называюцца ватыканскія выбары), стаў папам рымскім — пераемнікам „князя апосталаў" Пятра, вярхоўным святаром сусветнага касцёла, прымасам Італіі, архіепіскапам і мітрапалітам Рымскай правінцыі, непагрэшным у пытаннях веры і маралі. Многія Аляксандры былі таксама меншымі або большымі ўладарамі такіх дзяржаў як Шатландыя, Сербія і Расія. Каліёстра, які вядомы таксама пад мянушкай Бальсама, — гэта слаўны авантурнік і шарлатан XVIII стагоддзя. Шатландскі мараплавец Аляксандр Селькірк пасля спрэчкі з капітанам карабля быў пакінуты на бязлюдным выспе Хуан Фернандэс блізу Чылі і там адзінока пражыў пяць гадоў: яго прыгоды як Рабінсона Крузо апісаў Д. Дэфо. Вядомыя таксама палітыкі: Хэмілтан, Стыфенс, Макензі, Керанскі, Папагас, Завадзкі, а ў апошні час Перціні, Дубчэк і Руцкой. Героя многіх нiўскіх фельетонаў і артыкулаў, таксама Аляксандра — Лукашэнку, будуць праклінаць усе вучні і студэнты, якім прыйдзецца зубрыць пра яго незвычайныя здзяйсненні. А мы, беларусы Беласточчыны, таксама можам ганарыцца сваім Аляксандрам — Баршчэўскім, вядомым паэтам, вучоным, пісьменнікам. Ад 1992 года паспяхова адыгрываў таксама адну з найбольш вядомых роляў, напісаных Лопэ дэ Вэгам: можна сказаць — займаўся тэатрам, быў акцёрам. Акцёры ў наш час не цураюцца палітыкі: у польскіх заканадаўчых органах яшчэ нядаўна аж кішэла ад іх, як у мурашніку, а найслаўнейшым амерыканскім прэзідэнтам быў каўбойскі акцёр Роні Рэйган. У святле ўсяго вышэйпрыведзенага відаць, што і наш Алесь, як спрактыкаваны акцёр, меў бы неблагія шансы нават на прэзідэнтуру. І ўсё было б добра, калі б не прызанямог. А ў нашай Польшчы лічацца толькі палітыкі незаганна здаровыя. Вось, для прыкладу, такі любімец нацыі як Яцак Курань упаў нядаўна з веласіпеда і крыху патурбаваўся і ўжо яго шанс на паспяховы выбар на найважнейшы пост у дзяржаве паменшаў да мінімуму. На найвышэйшы пост кандыдуе, таксама з мінімальнымі шансамі, вынаходца, якога ўкладышы ў абутак лечаць ад любой немачы; нават нашая „Ніва", дзякуючы Андрэю Гаўрылюку, пісала пра гэтае нязвыклае лякарства. Ну, але калі хто хоча панам быць і чытае толькі панскія газеты, хай тады не думае пра прэзідэнтуру. А ўжо знеахвочванне да чытання „Нівы" абавязкова, як на прыкладзе нашага Алеся бачым, выходзіць бокам.

Побач нашай рэдакцыі, як пэўна многім вядома, працуюць беластоцкія салідарнікі. Яны таксама рыхтуюцца да прэзідэнцкіх выбараў: вывесілі плакаты іхнага цяперашняга фаварыта і колішняга правадыра Леха Валэнсы. На адным плакаце прэзідэнт пранікліва задуманы а на другім... На другім плакаце, цяжка гэта апісаць, прэзідэнт вельмі салодка ўсміхаецца: саладзей ужо, здаецца, усміхнуцца немагчыма. Мусіць нават Чычыяліна ў сваіх фільмах не робіць так прывабна салодкага выгляду як усім вядомы Лех, якога знае цэлы свет. (Фільмаў з Чычыялінай я не аглядаў але, так, як тыя, што не аглядалі фільма „Ксёндз", ведаюць, якія там Садом і Гамора, так і я сабе ўяўляю, які ў яе фільмах Эдэм.) Дзеля чаго на плакаце зрабіў ён так салодкі выгляд — ніякі сакрэт: дзеля свайго паўторнага выбару на свой пост. І гэта, думаю, добры метад: выбярыце мяне і я буду з вышыні свайго паста салодзенька на вас, даражэнькія грамадзяне, паглядаць: ці то з газет, ці з партрэтаў, ці з тэлеэкранаў. І стане вам салодка — салодкім стане вашае жыццё. Трэба, па-мойму, з прэзідэнцкіх выбараў выкінуць усякія праграмныя сваркі паміж кандыдатамі: ці то наконт пенсій, ці падаткаў, ці канкардату, канстытуцыі і ўсякіх другіх клапатлівых і складаных пытанняў, а, ідучы следам за найважнейшай асобай у дзяржаве, абмежавацца толькі да спаборніцтва ўсмешак — чыя саладзейшая, таго і выбраць прэзідэнтам. Ацэнкай усмешак, каб было справядліва і прафесіянальна, займалася б кампетэнтнае журы так, як гэта робіцца на конкурсах прыгажосці. Можна было б два гэтыя спаборніцтвы праводзіць нават разам, бо лік фіналістаў у абодвух таго самага парадку: каля семнаццаці. Каб аблягчыць журы выбар, кандыдаты на пост прэзідэнта выступалі б у трусіках і, выканаўшы рэверанс, праспявалі б адну з песень Ліроя. Фінал такіх выбараў, пераможца якога атрымоўваў бы яшчэ „малюха" а пераможаныя па кніжачцы выдавецтва „Harlequin", папярэджвалі б рэгіянальныя і міжзанальныя элімінацыі. Згаданае журы можна было б назваць сеймам: элекцыйным — для выбару прэзідэнта і каранацыйным — для выбару каралевы прыгажосці, так, як гэта было ў Першай Рэчы Паспалітай — згодна з гістарычнай традыцыяй. У параўнанні з цяперашняй выбарчай кампаніяй гэта нічуць не паменшыла б павагі выбару галавы дзяржавы, а было б напэўна намнога таннейшае і цікавейшае. Яшчэ журы магло б браць пад увагу, вядома, і таленты сапернікаў: сёння выступае вынаходца цудадзейных укладышаў, а ўжо ў наступных выбарах маглі б прыняць удзел і другія цудадзеі: Харыс, Кашпіроўскі ці нават даследчыкі месцаў моцы. А далей яшчэ то можа і здані, і пачвары...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Маркс усяго не прадбачыў

*Працяг са стар. 1*

лякімі сацыялістамі, анархістамі і бальшавікамі натоўпам. Дэмакратычная ўлада не хацела наводзіць парадкі пры дапамозе тэрору. Вырашыла ісці ў адваротным напрамку. Выпусціла з турмаў усіх палітычных вязняў і крыміналістаў, дазволіла ўсім вяртацца са ссылкі. Як няцяжка здагадацца, лагер рэвалюцыянераў толькі ўзмоцніўся больш дэтэрмінаванымі і дэмаралізаванымі актывістамі. Вярнуліся тады Сталін, Свярдлоў, Дзяржынскі, Куйбышаў. У сталіцы — Петраградзе — не было дня без дэманстрацый і пратэстаў. Сацыялістычныя групоўкі вялі паміж сабою асаблівае спаборніцтва — хто больш радыкальна выступіць супраць урада. Адрачэнне цара ад трона, зразумела, не адмяніла гаспадарчай сітуацыі краіны. Голаду ні холаду немагчыма ліквідаваць за некалькі дзён, тыдняў ні месяцаў. Патрабаванні натоўпу і сацылістаў — хлеба, спакою і працы — не мог задаволіць ніводзін урад. Таму кансерватары і лібералы, якія ў сакавіку ўзялі ўладу, вырашылі яе аддаць менавіта сацыялістам. 21 ліпеня 1917 г. узнік новы ўрад з Аляксандрам Керанскім, дзе бальшасць міністраў складалі прадстаўнікі ўсялякіх сацыялістычных партый — эсэраў, меншавікоў. Раней, у красавіку таго ж года, немцы прывезлі са Швейцарыі Уладзіміра Ульянава, які прынцыпова імкнуўся да ўзброенага перавароту і бальшавіцкай дыктатуры. Калі ўзнік урад Керанскага, бальшавікі былі адзінай апазіцыйнай сілай, якая магла арганізаваць петраградскі натоўп супраць сацыялістычных улад Расіі. Сацыялісты, калі былі ў апазіцыі, маглі патрабаваць „ад імя працоўных мас" і хлеба, і працы, аднак калі апынуліся пры ўладзе, па зразумелых прычынах не маглі гэтага рэалізаваць. Расію магла ўратаваць толькі вайсковая дыктатура. Але генерал Леў Карнілаў, які сабраў пару тысяч афіцэраў, быў арыштаваны. Бальшавікі пры поўнай анархіі ў краіне вырашылі не чакаць спробы новага вайсковага перавароту. Сабраўшы пару тысяч салдат і матросаў 7 лістапада выступілі супраць сацыялістычнага ўрада. Бальшавіцкая рэвалюцыя так у сапраўднасці была антысацыялістычнай і антыдэмакратычнай. Пачаўся кашмар, перш за ўсё ў гісторыі расійцаў, які аднак закрануў таксама суседнія народы. Улада ў руках люмпену — як сёння пішуць расійскія гісторыкі — прывяла да смерці каля 50 мільёнаў людзей. Гэта больш, чым было ўсіх французаў, італьянцаў ці англічан. За што пацярпелі дзесяткі мільёнаў расійцаў, беларусаў, украінцаў і іншых народаў? Чаму пад лозунгам змагання за справядлівасць расійская зямля пакрылася густой сеткай канцлагераў? Чаму ў такіх лясах як Курапаты нават вясною не чуваць спеву птушак? Гэта не была ніякая грамадская рэвалюцыя. Бальшавікі выступілі быццам бы ў абарону інтарэсаў рабочага класа — знакамітай меншасці расійскага грамадства. Іх камуністычныя лозунгі накіраваныя былі не толькі супраць буржуазіі, якая складала паўпрацэнта насельніцтва, а перш за ўсё супраць сялянства. Сяляне менавіта былі найбольшай групай уласнікаў і яны перш за ўсё запоўнілі турмы, канцлагеры, масавыя магілы. Яны ў асноўным ахоўвалі нацыянальную традыцыю, таму шмат гадоў мінула, пакуль бальшавікі пераўтварылі сялян ў нявольнікаў, якім нават пашпарты не выдаваліся. Лейб Троцкі прапанаваў нават, каб цэлы народ падзяліць на дзве катэгорыі — вартаўнікоў і жыхароў канцлагераў. Толькі пазбаўленыя якіх-небудзь чалавечых пачуццяў тэрарысты маглі ў Расіі ў 1917 г. узяць і ўтрымаць уладу, якая была накіраваная супраць інтарэсаў значнай большасці народа, супраць традыцыі, супраць маральнасці і чалавечай годнасці.

**Яўген Міранавіч**

*Віктар Ярмалковіч*

# НА ЖЫЦЦЁВЫХ ХВАЛЯХ

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

## Цераз Бельск у Вільню

Цяжка было пхаць ваганетку і язда на ёй станавілася надта павольнай. Пачалі мы зноў камбінаваць і разглядацца за нечым лепшым. На нейкай невялічкай станцыі згледзелі мы дрызіну. Пад крык і грозьбы чыгуначніка, амаль гвалтам, дрызіна апынулася ў нашых руках. Цяпер была зусім іншая сітуацыя. На змену, што пяць кіламетраў, двое з нас націскалі на корбу і дрызіна неслася па рэйках у даль. Было лягчэй і хутчэй.

За адзін дзень мінулі мы Бельск і даехалі да Беластока. З прахаднога чыгуначнага маста прыглядаліся нам савецкія камандзіры, а мы перацягвалі дрызіну з адных рэек на другія, па-свойму ўстанаўлівалі чыгуначныя стрэлкі і несліся далей. Вечарам таго ж дня былі мы ў Саколцы. Там на станцыі, разам з савецкімі салдатамі, стаяла ўжо свежаарганізаваная міліцыя з чырвонымі павязкамі на руках. Цяпер у сваю чаргу адабралі нам дрызіну, а нас завялі на міліцэйскі пост. Кожнага з нас дапытвалі даволі доўга. Пазней салдаты пачаставалі нас супам, а курцы дасталі нават махорку. Было ўжо цёмна і позна. Міліцыянт адвёў нас на начлег.

Прыняла нас ветлівая і гасцінная гаспадыня. Паслала на падлозе, падлажыла пярыны, дала чым прыкрыцца. Але ўсе доўга не маглі заснуць. Можа былі мы надта стомлены, можа пасля перанесенага было нам аж надта выгадна, а можа было трохі халаднавата. Не спалася нам. Не спала і гаспадыня, бо час ад часу чуваць было ёй стогны. Яна таксама перажывала. Яе мужа забралі на вайну і не мела ад яго ніякай весткі.

Раніцай падаліся мы ў далейшы свой паход. Ішлі ў бок Гродна. Дзень, хаця і асенні, быў сонечны і яшчэ цёплы. Па дарозе зноў пралятaлі савецкія машыны з салдатамі, а з кузаваў угару і ўбакі тырчэлі дулы кулямётаў. З раскіданых лістовак прачыталі мы аб рашэнні савецкага ўрада вызваліць заходнія Беларусь і Украіну ды аб'яднаць іх у адно з астатнімі землямі.

Здалёку віднеліся вежы гродзенскіх касцёлаў. Аднак пакуль мы дабраліся да Гродна, быў ужо вечар. Тут даведаліся мы, што рыхтуецца цягнік у Вільню. Вырашылі чакаць. На станцыі сабралася многа народу. Вярталіся, разагнаныя ваеннымі падзеямі, цывільныя асобы, ішлі дадому з франтоў змабілізаваныя на вайну салдаты былога Войска Польскага.

Падышоў да мяне міліцыянер, жыдок. Пачалі мы размаўляць. Аказалася, што гэта адзін з маіх універсітэцкіх калегаў, які як палітычны вязень сядзеў у гарадзенскай турме, а цяпер быў у іх якімсьці там начальнікам. Міліцыянер запрашаў мяне да сябе на пост. „Не адлучайся, — пратэставалі таварышы падарожжа, — бо яшчэ застанешся", і я неяк адказаўся.

На станцыі прасядзелі мы ўсю ноч. У пэўны момант зачапіў мяне польскі салдат. Ён пазнаў мяне. Як высветлілася, быў гэта хлопец з суседняй вёскі — з Лайбішак. Ішоў ён з вайны дахаты. Дагаварыліся вяртацца разам.

Раніцай аб'явілі, што цягнік ужо гатовы і можна выходзіць на перон. Мы кінуліся да выхаду, а там чакалі савецкія салдаты і міліцыя. Цывільных яны не чапалі, толькі былым польскім салдатам загадалі стаць збоку. Да групы салдат далучылі і мяне. Відаць, толькі таму, што быў я ў студэнцкай шапцы і саветам здалося, што я вайсковец. Гэтую сітуацыю напэўна прыкмеціў знаёмы мне міліцыянер, бо падышоў ён да салдат, пагаварыў з імі і неўзабаве дазволілі мне пайсці далей. На гэтым пероне расстаўся я з суседам з Лайбішак і больш яго ў сваім жыцці ўжо не спаткаў.

У Вільню прыехалі мы перад поўднем. Было нас цяпер шэсць чалавек: Паўлюкоўскі, Шнаркевіч, Найдзюк, Альфонс Шутовіч, аплікант Калыняк і я. Магістр Ян Шутовіч адлучыўся ад нас у Беластоку. Многія з віленскіх вязняў Картуз-Бярозы вярталіся іншымі дарогамі. Многія з іх засталіся па дарозе, найбольш хіба ў Бярэсці. Яны не змаглі ісці далей і вырашылі чакаць там, пакуль стануць хадзіць цягнікі.

Па дарозе са станцыі ў горад далучылася да нас „девушка" ў чырвонай сукенцы. Яна не адступала ад нас і ўвесь час расказвала як добра жывецца ў Савецкім Саюзе, і такім жа жыццём суцяшала нас. Ужо без „девушки" зайшлі мы да фатографа. Канчалася нашае супольнае падарожжа. Быў дваццаць пяты дзень верасня.

Пераначаваўшы ў Вільні, направіўся я дахаты. У Рудоміне зайшоў да Ганкі Шутовіч. Прыняла яна мяне яечняй з мноства яек. Я ўсё з'еў і, аж сорамна прызнацца, яшчэ быў галодны. Прыйшлі першыя дні кастрычніка. Надвор'е было сонечнае, яшчэ не халоднае, але ў хаце хадзіў я ў братавым кажуху і ўсё мне было зімна. А час і далей быў неспакойны, вайна працягвалася і пашыралася ў свеце. Усё гэта вызваляла ў людзей дзікія інстынкты, ламала маральныя асновы і нічога добрага на будучыню не прадвяшчала.

*(працяг будзе)*

**БЕЛАВЕЖА**

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 430*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*

*Міхал Андрасюк*

## Я ад'еду

Я ад'еду. А ты не сумуй,
нат калі мне і ехаць далёка.
Прыхілі гавараху зіму,
прылажы на сумоты зіму,
у снягах і бальзам, і палёгка
Нясе ростань страхоцяў гладыш,
перапіць іх усіх немагчыма,
дык няхай, няхай зваляцца ў ціш
і сасняцца ў раззораных зімах.
Назірай за веяннем вятроў,
наглядай за птушыным палётам.
Я з вясною прыеду і зноў
моўчкі стану ў белых варотах.
І хаця слоў табе не змагу
перадаць, а і ты мне не зможаш,
мае вочы струной пабягуць
да радзімых лясоў і дарожак.
Калі зоры пад сіні вянец
маладзік адпраўляе папарах,
пашукай у крыніцах мяне,
у расе, што паіла каней,
у дажджамі напоўненых хмарах.

*Алесь Чобат*

## Ноч

Горад. Вуліца. Смецце.
Дождж змывае цяпло.
Сніцца, як перад смерцю,
ўсё, што са мной было.

Лішняе і чужое,
даўняе і сваё
ранішняй цішынёю
лезе ў акно маё.

Так вось і выглядала
краіна, якой не знаў —
зямля, што мяне не чакала,
і час, дзе я паміраў.

* * *

Не трэба нараджацца тут.
Патрэб не мае гэты люд,
каб ты тут нараджаўся
і жыць тут заставаўся.

Ты быў у маці ў жываце
чужым тутэйшай сваласце —
працоўнаму народцу,
загніўшаму балотцу.

І ў яме не дадуць ляжаць —
усім ахвота напляваць.
Як жыць без асалоды
тутэйшаму народу...

*Барыс Руско*

## Плоскасць

Рух лініі рысуе плоскасць
плоскую, як мара пустэльніка.
І ўгнутую, як ніша памяці.
І хвалістую, як мяккасць шэпту.
І выпуклую, як крык разгубленасці.
І ўзлётную, як крыло роспачы.
І пакатую, як галіна ўрадлівая.
І акруглую, як бесцялесны більярдны
шар.
І выгінастую, як фальшывая гутарка.
І зморшчаную, як адвага баязліўца.
І спіральную, як выказаны погляд.
Абмежаваную
і бясконцую,
каляровую
і бясколерную,
быструю
і застылую.
Плоскасць — чакальны пакой
трохвымернай формы ўяўлення.

*Людміла Таран*

* * *

Гады ў рады наведваеш яшчэ сваё старое й аджыўшае
Паселішча.
Здзіўляешся
Сабе самому: як мог ты ў гэтым пекле жыць,
У той жалезам
моўчкі скутай
строенай няволі?

Ты тут цяпер — пабочны быццам госць...
У чужых краях адпіўшы з чашы праўды і свабоды,
Чаго, па чым рыдаеш ты на той няправеднай зямлі?
Што тут
душа твая згубіла?

*З украінскай мовы пераклаў*
*Юры Трачук*

**З найноўшага зборніка „Абарона душы" (Кіеў, 1994)**

Мал. Міколы Давідзюка

### Мікола Яцкоў

належыць да маладога пакалення паэтаў у Рэспубліцы Беларусь. Ён, таксама, і кампазітар. Публікуем яго песню „Сцяг" на словы Сяргея Панізніка, якую даспаў у нашу рэдакцыю.

Велічна
Свет-лым по-лем я ня-су а-гня-ву-ю
па-ла-су: як ма-лан-ка на-да мной зі-ха-ціць над
га-ла-во-ой Сцяг мой воль-ны, сцяг мой сме-лы,
сцяг мой бел-чыр-во-на-бе-лы, сцяг мой воль-ны,
сцяг мой сме-лы, сцяг мой бел-чыр-во-на-бе-лы.

Светлым полем я нясу
агнявую паласу:
як маланка, нада мной
зіхаціць над галавой
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы,
сцяг мой бел-чырвона-белы.

Быў адважны продак мой
у пагоні баявой.
Той пагоні чую звон:
хай нясецца наўздагон
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы,
сцяг мой бел-чырвона-белы.

Залунай на ўвесь прасцяг
агнявых вякоў працяг:
ёсць Дзяржава, ёсць Народ!
Развінайся — і ў палёт,
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы,
сцяг мой бел-чырвона-белы!

*Віктар Швед*

## БЕДНЫЯ І БАГАТЫЯ

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Мястчэка Орля ў міжваенне мела перавагу жыдоўскага насельніцтва. Жылі тут людзі розных прафесій, неабходных для абслугоўвання жыхароў навакольных вёсак: сталяры, шаўцы, краўцы, шапачнікі, кавалі, лекары і аптэкары. Найбольш, аднак, было гандляроў, што гандлявалі ў сваіх крамках вакол рынку. Здараліся і багатыя, як, напрыклад, сям'я Вайнштэйнаў, уласнікаў кафлярні, што не толькі прадавалі свае вырабы ў краіне, але і экспартавалі іх за мяжу.

Наймацней запамяталіся мне, аднак, гандляры, што прыходзілі або прыязджалі ў маё Мора.

Самым бедным з іх быў Алт, якога звалі анучнікам. Скупляў ён у сялянак анучы за дробныя медзякі. Быў гэта рослы, але старэнькі, прыгорблены ўжо гадамі мужчына з сівой, доўгай, барадою і кучаравымі, гэтак жа сівымі, валасамі, што вылазілі з-пад яго маленькай ярмолкі. Хадзіў Алт нязменна ў зашмальцаваным халаце невядомага ўжо колеру. На яго халаце тым не было відаць гузікаў, таму быў ён падпярэзаны шнурком, але так няўмела, што адна пала выдавалася нашмат даўжэйшай за другую. Боты на нагах Алта — ад пастаяннай хады — павыгіналіся і нагадвалі сабою палазы. За пазухай насіў Алт неадлучны бязменчык, які выцягваў тады, калі сялянка выносіла на панадворак горбу анучаў. Алт дакладна важыў іх, потым выцягваў з-пад кашулі торбачку, што вісела ў яго на шыі на шнурочку, вымаў з яе мядзяк, клаў яго на далоню жанчыне, што прадавала яму анучы, пазіраючы ў яе вочы з пытаннем: мо хопіць? Жанчына, вядома, трасла галавою, што мала, і Алт ізноў рыўся ў сваёй торбачцы і выцягваў наступную манету, пакуль не дайшлі да згоды. Алт скупляў ануч столькі, колькі іх месцілася ў мяшочку, што насіў за плячыма. Цікава, што не шанавалі Алта іншыя, багацейшыя, гандляры, якія прыязджалі сваімі вазамі ў нашу вёску.

Прыкладна, жыватасты Гэрш, што купляў куры і яйкі, на пытанне сялян, чаму ён ніколі не падвязе па дарозе нядужага Алта, адказваў: — Не хачу, каб засмуродзіў ён мой воз сваімі анучамі.

Гэрш, якога ўсе называлі Гэршкам, гэта была цікавая і, адначасова, смешная постаць. Меў так вялізны жывот, што ад яго павыгіналіся драбіны ў возе. Калі Гэршка выносіў ад гаспадыняў у рэшаце яйкі, высыпаў іх проста ў кашы-скрыні, сплеценыя з лазы і пастаўленыя на возе для перавозкі сыпкіх рэчываў. І, калі частка яек разбівалася, Гэршка тут жа іх выпіваў, каб не змарнаваліся. І нам, жэўжыкам, тады падалося, што ў Гэршка таму такі жывот, каб у ім маглі змясціцца разбітыя яйкі. Купленыя куры, з павязанымі нагамі і крыламі, Гэршка, таксама, кідаў на горбу ў воз і яны там, лежачы адна ля аднае, страшэнна кудахталі ды трапяталіся, як ашалелыя.

Моцным канём і добрым возам прыязджаў у Мора скупшчык збожжа Ошар. А сам ён — малюсенькі, мо паўтара метра росту чалавечык. Здавалася нам, што не створаны ён да такіх аграмадністых грузаў. Неўзабаве пераканаліся мы, што вельмі памыляліся. Здзіўляў ён усіх у вёсцы, калі браў пад пахі стакілаграмовыя мяшкі са збожжам і, быццам без напружання, выносіў іх з панадворка ў воз, загружаны да крайнасці такімі ж мяшкамі. І, калі толькі ў вёсцы паяўляўся нейкі асілак, зараз жа сцвярджалі: — Гляньце толькі, які Ошар!

Асабліва, калі гэты асілак быў нізкарослы.

Думалася нам, што гандляр Ошар — гэта надта багаты чалавек у параўнанні, хаця б, з анучнікам Алтам, які пакідаў бабам мізэрныя медзякі, а кашалёк Ошара заўсёды быў тугі ад грошай, як тыя мяшкі.

Найбольшае, аднак, захапленне вясковых падшыванцаў выклікаў пан Арон, гожы смуглявы брунет з чорнымі вусікамі і, таксама, чорнымі, як вугаль, кучаравымі валасамі. Пан Арон прыязджаў не з Орлі, а з Беластока, і не канём, толькі бліпчастай чорнай машынай. Пан Арон, так яго ўсе звалі, прыязджаў як прадстаўнік шведскай фірмы „Singer", што прадавала швейныя машыны. Збіраў у нашай і ў суседніх вёсках заказы на гэтыя машыны. Наш сусед афармляў швейную машыну сваёй кульгавай, пажылой ужо, дачцэ. Мы, жэўжыкі, упершыню ў сваім жыцці ўбачылі легкавую машыну і таму былі ў поўным захапленні ад яе і, хоць гэтая аўтамашына была запылена на палявых дарогах, хацелася кожнаму з нас пальцам дакрануцца таго цуда. На жаль, непрыхільны да нас шафёр Арона адганяў дзятву як быццам баючыся, каб мы чаго не пашкодзілі ў ёй. А мы ж ахвотна пачысцілі б гэтую аўтамашыну з дарожнага пылу да глянцу, каб толькі нам ён дазволіў. Пан Арон і яго шафёр былі да нас непрыхільныя. Вядома ж: вялікія з іх паны-багацеі ў параўнанні з Ошарам ці Гэршкам. Не гаворачы ўжо пра беднага анучніка Алта, якім нават свае жыды пагарджалі і нас вучылі гэтае пагарды.

# Зорка

## старонка для дзяцей

### Пішуць школьнікі

**Добры дзень, „Зорка"!**

Пішa табе вучаніца пятага класа Пачатковай школы ў Старым Корніне, што ў гміне Дубічы-Царкоўныя. У нашай школе вучыцца 53 вучні. Класы ў нас малыя, пяты спалучаны разам з шостым.

У маім класе вучыцца сем вучняў і ўсе вывучаюць беларускую мову. У класе ёсць чатыры дзяўчынкі і тры хлопчыкі.

Беларускай мове я вучуся ад другога класа. У пятым класе беларускую мову вывучаем тры разы ў тыдзень. Заняткі па беларускай мове вядзе ў нас Васіль Сегень. На ўроках мы часта чытаем „Ніву" і „Зорку". У „Зорцы" найбольш нам падабаюцца вершы Віктара Шведа. Я вельмі люблю беларускую мову.

Да пабачэння, „Зорка"!

**Анеля Гаўрылюк**

**Ад рэдакцыі:** Анелька, твой ліст вельмі ўцешыў „Зорку". Даўно ўжо ніхто са Старога Корніна не пісаў нам. Абяцаю, што ўжо неўзабаве наведаю вашую школу, дзе так многа чытачоў нашай дзіцячай старонкі. Напамінаю таксама, што будзеш удзельніцай штомесячных конкурсаў для карэспандэнтаў „Зоркі".

З-ка



*Завітала восень залатая. Дзеці з Залук на перапынку.* **Фота Г. Кандрацюк.**

### Сыплюцца з клёнаў лісты

Сыплюцца з клёнаў лісты,
Сыплюцца ціха, жахліва,
Крыюць зямлю і кусты,
Золатам крыюць маўкліва.
Сыплецца саду краса.
Кроплі дажджу, як раса,

Жутла блішчаць, без адліва.
Восень... дажджы ўжо не дзіва...
А над зямлёю старой
Сунуцца шэрыя хмары,

Цені кідаюць парой,
Цені на нівы, папары.

Хмары плывуць і растуць,
Хмары туманы нясуць,

Што пакладуцца на нівы,
Восень... туманы не дзіва...
Сунуцца хмарай клубы
Ўдаль над прасторамі ніваў.
Сыплюцца з клёнаў лісты,
Сыплюцца ціха, жахліва.

Томіцца сэрца, баліць,
Рвецца памерці і жыць,
Сэрца смуціцца маўкліва.
Восень... дык смутак не дзіва...

**Наталля Арсеннева**

## Пра абрад Дзяды

Дзяды — абрад ушанавання памерлых продкаў — спраўляюцца ў суботу на трэцім тыдні пасля Пакроваў. Беларусы верылі, што ў гэты дзень душы продкаў злятаюцца на зямлю, каб даведацца як жывуць іх родныя, як захоўваюць даўнія звычаі.

Дзяды — вялікае сямейнае свята, да якога рыхтаваліся ўсёй сям'ёй. Трэба было навесці парадак: вынесці смецце з двара, прыбраць у хаце, прыгатаваць стравы, памыцца.

Вячэра пачыналася малітваю аднаго са старэйшых членаў сям'і. За стол садзіліся ціха, без запрашэння, кожны на сваё месца. Гаспадар, перахрысціўшыся, клікаў дзядоў.

Існаваў строгі парадак падавання яды на стол, напрыклад: куцця, поліўка, малако, клёцкі, яечня, каша, бліны, мяса. Кожны з членаў сям'і быў вымушаны пакаштаваць усе стравы, інакш продкі будуць злаваць і наробяць шкоды. Колькасць страў магла быць розная, але абавязкова няцотнай (няпарнай). Вячэра праходзіла ціха. Звычайна добрым словам успаміналі памерлых родзічаў. Уставаць з-за стала трэба было адначасова ўсім, бо верылі, што той, хто ўстане раней, можа хутка памерці.

Пасля вячэры гаварылі: „Святыя дзяды! Елі і пілі, ідзіце да сябе". Стол пакідалі непрыбраным, думалі, што пасля іх пасілкуюцца душы продкаў. Рэшткі страў аддавалі хатняй жывёле і птушкам, а палешукі кідалі страву ў азёры і рэкі, калі ў сям'і былі тапельцы.

**Дзяды — свята, якое абуджае нашу памяць, нашу самасвядомасць, ажыўляе гісторыю і адчыняе будучыю.**

Дзяды па-майстэрску апісаў Адам Міцкевіч, ураджэнец беларускай зямлі.

**АА**
*(паводле „Этнаграфіі Беларусі")*



Гэтую ілюстрацыю да казкі „Сварлівая жонка", якая нядаўна друкавалася ў „Зорцы", намалявала Эміля Бароўская – вучаніца класа IV б Пачатковай школы ў Нараўцы.

### Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 5

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу 2 тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды — запісныя кніжкі.

Адказ на крыжаванку н-р 2: сорам, карова, вада, сад, сава, горад, род, лава, мара.

Узнагароды атрымаюць:

— альбомы для фотаздымкаў: **Марыля Тапалеўская** з Кленік і **Марцін Аўласюк** з Бельска-Падляшскага;

— запісную кніжку: **Анэта Садоўская** з Беластока.

Віншуем!

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| WIENIEC | JAMA | NORA | | WARKOCZ |
| → | ↓ | ↓ | | ↓ |
| KŁAMSTWO → | | | | |
| | | | ↑ | |
| ↱ | | | SEN | |
| KULA | OSA → | | | |

### Загадкі з агарода (н-р 3)

1) На градцы — доўгі і зялёны, у бочцы — жоўты і салёны.
2) Лата на лаце і шва не знаці.
3) Сядзіць Хадося, растрапаўшы косы, хто ідзе, той скубе.
4) Хоць і красна, ды не дзеўка, хоць з хвастом, ды не мыш!

Адказ на загадкі н-р 1 („Ніва", н-р 42):
1) вясёлка, 2) дождж, 3) вецер, 4) лядзяш.

Узнагароду — касету рок-гурту „Брага" — атрымае **Аня Стэпанюк** з Беластока.



Талон "Зоркі" н-р 5
05.11.1995

# Унук двух паэтаў

Малы Міхаська Лук'янюк жыве на хутары Малынка, між вёскамі Малынкай і Катламі. Цудоўнае тут наваколле! Прыгожы луг пад самым лесам, вялікі сад, маляўнічы панадворак.

Міхаська любіць гуляць каля хаты, а асабліва тады, калі яго старэйшы брат Ігар, вучань самахадовай школы ў Міхалове, разбірае ці складае самаход. Цікава паглядзець на гэта Міхаську!

Любіць Міхаська назіраць, як змяняюцца поры года. Толькі што адплылі веснавыя ручаі, а ўжо прайшло лета і залаціцца восень. Шкада, што мама не пускае аднаго ў лес. Колькі лісця навокал: жоўтага, чырвонага, карычневага. Найхутчэй губляюць свае маленькія лісточкі бярозы, а найдаўжэй трымаюцца вялікія лісткі на дубе. Хутка прыйдзе зіма, а яны ўсё яшчэ будуць сядзець. О, зімою зажыве Міхаська! Будзе ездзіць з горкі на санках, ляпіць снежныя бабы. А на Каляды мама купіць гасцінец, будуць зімовыя канікулы і ўсім будзе весела. Будзе гуляць у снежкі з брацікамі Сільвестрам і Ігарам, а з Беластока прыедуць дзве яго дарослыя сястры — Івона і Мар'еля.

Цяпер у Міхаські шмат працы: ён пайшоў сёлета ў першы клас. Штодзень яго завозіць у школу ў Заблудаў і адвозіць дахаты ў Малынку школьны аўтобус. Міхаська ўжо і ў мінулым годзе папаездзіў у Заблудаў: хадзіў ужо ў нулявы клас. Аднак жа сёлета — гэта табе не жартачкі — работы шмат. Гэта ж можа не нейкае прадшколле, а першы клас!

Міхаська Лук'янюк — унук двух паэтаў. Яго дзедам па маці быў Міхась Красоўскі, які пісаў у „Ніву" пад псеўданімам Дзядзька Квас і нават нядаўна выйшла яго кніжка „Роздумы на калёсах". Шкада, што дзедкі ўжо няма ў жывых. Памёр дзесяць гадоў таму, і сямігадовы Міхаська нават яго не бачыў. Але затое ахрысцілі яго Міхасём па дзеду, ды і жыве на дзедавай сялібе. Наведвае часта магілу дзеда ў Пяценцы.

Ёсць у Міхаські другі дзед — Мікалай Лук'янюк (па бацьку), які жыве ў вёсцы Бялкі. Ён таксама быў карэспандэнтам „Нівы", пісаў розныя інфармацыі пра сваю вёску і вершы. Любіць дзед, калі Міхаська з бацькамі наведвае яго, але і сам у Малынку часта заглядае.



Можа і з Міхаські вырасце паэт, або мастак, як цёця Люба, маміна сястра, што жыве аж у Сафіі. Унук такіх дзедаў не можа быць горшы.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

## Вучнёўская творчасць

**Дарагая „Зорка"!**

У мяне вельмі добрая сяброўка. Яе называюць Бася. Я яе вельмі люблю. Таму я і склала пра яе гэты вершык:

### Мая сяброўка

Я сяброўку добру маю,
Бася — так яе называюць.
Я вельмі люблю яе,
а яна любіць мяне.
І дзве ўсюды мы гуляем,
разам песенькі спяваем.
У вучобе сабе памагаем,
разам дамашнія ўрокі рашаем.
Дзе Бася, там і я,
а дзе я, там і яна.
Я аб Басі ніколі не забываю
і цешуся, што такую сяброўку
маю.

**Юліта Яканюк**, кл. VII
Крывая

**Ад рэдакцыі:** Каханая Юліта, і я вельмі цешуся, што не забываеш пра „Зорку".

# У другім класе



— Пакуль што чытаем казкі, вершы, апавяданні, — гавораць вучні 2-га класа Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных.

Адна толькі Аня Скаўротка ўмее сама чытаць па-беларуску. Аня пазнала беларускую азбуку, дзякуючы сваім братам.

— У сям'і Ані вялікую ўвагу адводзяць роднай мове, — дадае настаўніца беларускай мовы Галіна Трашчотка.

У другім класе амаль усе вучні ходзяць на беларускую мову. Дзецям падабаюцца гэтыя заняткі. У класе вучацца дзеці з розных мясцовасцей. Эва Каўбасюк родам з Войнаўкі, пушчанскай вёскі. У школу даязджае школьным аўтобусам. Кася Крук і Адрыян Жак з Тафілаўцаў, Павел Невядомскі з Істока. Хлопцы любяць з'яўляцца ў школу на роварах.

З самых Дубіч толькі дзве дзяўчынкі — Моніка Чыквін і Аня Скаўротка. Усе дзеці хочуць як найхутчэй стаць чытачамі „Зоркі".

**Г.К.**

# МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ




*Малюнак Бэаты Грыгарук з Пачатковай школы ў Палічнай.*

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Валасок

Кажуць жа людзі: найгоршае ў хаце — гэта сварка. Хоць то і вядома, што няма тае хаткі, дзе не было б звадкі. Але ж вось у адным сяле ўдалася сям'я нарэдкасць згодлівая і памяркоўная. Што б там па гаспадарцы ці ў хаце не здарылася, ні жонка мужу, ні муж жонцы слова крыўднага ніколі не сказалі і крывым вокам не глянулі. І жылі ж яны няблага: у дабры, бы той сыр у масле, качаліся. Вядома, працы не баяліся ды ўсё душа ў душу.

І пазайздросцілі іхняму шчасцю суседзі нядобрыя. Нездарма ж гаворыцца: завіднаму чужое гора, як мёд, салодкае. Думалі яны, думалі, як мужа з жонкаю пасварыць, ды і прыдумалі. Падбухторылі на злое бабу жабрачую і траяк ёй паабяцалі.

Пайшла жабрачка ў згодлівую сям'ю ды просіць міласці. Гаспадыня і дае ёй кавалак саланіны, з каморы вынесшы.

— Дзякую табе, галубка, але што на тое скажа твой мужык, як даведаецца, што ты мяне, гаротную, гэтак шчодра надарыла? — пытаецца жабрачка.

— Ешце, бабка, на здароўе, а пра мяне не бядуйце: муж у мяне добры і слова на гэта не скажа, — адказала гаспадыня.

— А мая ты саколка, — на тое жабрачка, — быў бы ён у цябе яшчэ лепшы, каб ты яго крыху палячыла...

— Што вы скажаце? — задзівавалася жанчына. — А як жа яго лячыць?

— Табе толькі скажу, мая ты галубка, дабрату тваю ведаючы. А ты ўжо нікому пра тое ні слова і мужу таксама нічога не кажы, бо лекаванне не паможа. Ты гэта вечарам, як ён ляжа спаць, вазьмі брытву і абрэж валасок, што на шыі ў твайго мужа. Валасок гэты доўгі і ў ім, каб ты тое ведала, уся мужыкова злосць таіцца...

Пайшла жабрачка з хаты, а гаспадыня і задумалася, як той валасок з мужыковай шыі збрыць. Узяла брытву, падвастрыла яе на паску і паклала ў зручным месцы.

Жабрачка ж тым часам падрапала ў клуню, дзе гаспадар авёс малаціў:

— Памажы, Божа, табе, мой саколіку! — прывіталася яна ды кажа: — Ты тут малоціш, з сілы выбіваешся, і не ведаеш, што смерць твая ўжо на парозе...

— Што вы кажаце, бабка?! — здзівіўся чалавек.

— А то ж так, каб ты ведаў, мой саколіку. Нечакана і негадана смерць ударыць па табе. Ад рукі таго, што ты і не спадзяешся, у хаце тваёй ноччу ды на пасцелі, — сказала жабрачка, а сама — ходу з падворка.

Задумаўся чалавек над сваім лёсам, і работа яму стала нямілай.

Нябач і вечар надышоў. Павячэралі. Гаспадар спаць лёг, а гаспадыня яшчэ каля печы тупала і ўсё пазірала, калі муж вочы заплюшчыць.

Як толькі муж суцішыўся і закрыў вочы, падышла яна з брытваю ў руцэ і стала на шыі той валасок шукаць. Мужык сарваўся ды ў крык:

— Вось дзе мая смерць затаілася!..

Схапіўся мужык з палацаў і давай жонку лупцаваць ды з калом у руках поначы вакол хаты ганяць. Тут то і пайшло ў іх: як дзень так і ноч, безупынку — усёй вёсцы на пасмешышча, а злым суседзям на радасць.

Таму і кажуць людзі: чужой парады слухай ды свой розум май.

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

----------

**Траяк** — колішняя манета вартасцю ў 3 грошы ці 3 капейкі.
**Палаці** — насціл з дошак паміж сцяною і печчу на якім калісьці спала ўся сям'я.

# Бязлітасная праўда быцця

*(Заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Творчасць пісьменніцы — сапраўдная лабараторыя нялёгкіх перамог і творчых пакут-знаходак, дзе ў муках і сумненнях нараджаецца кожная старонка, кожны наступны радок.

У сваёй стылёвай практыцы кожны беларускамоўны пісьменнік сустракаецца з дзвюма цяжкасцямі. З аднаго боку — пласт вясковага жыцця, традыцыйна, вядома, зляжалы ўжо і багаты; з другога — пісьменніца захоплівае ў вір сваіх твораў многія сферы жыцця (асабліва ў паэзіі), далёкія ад сялянскіх, нетрадыцыйныя, дзе трэба было, па-сутнасці, ствараць стылі.

І трэба сказаць, што пісьменніцы ў большасці стае таленту, каб так напісаць, так падслухаць таямніцу слоў, каб пры іх злучэнні атрымаўся стыль, які перайшоў у мову, так загаварылі ўсе. М. Лукша мае шчаслівы дар адчування і ўдалага ўвядзення ў літаратурную мову роднага дыялектнага слова. Дарэчы, большасць слоў некалі былі дыялектнымі, а зараз сталі літаратурнай нормай. Многія даследчыкі папракаюць беластоцкіх аўтараў, што яны, нібыта, злоўжываюць дыялектнымі словамі. Але, відаць, ва ўмовах неабходнасці зачэрпнуць усё багацце народнага слова і ўвесці ўсё лепшае не толькі з цэнтральных гаворак, а з усіх куткоў, дзе гучыць беларускае слова, у літаратурную мову, такое выкарыстанне дыялектнага матэрыялу адзіна правільнае (хаця з-за гэтага многія літаратары часам выглядаюць нявыгадна косназязыка і правінцыяльна). І мы, жыхары карэннай Беларусі, павінны быць асабліва ўдзячны беластоцкім літаратарам, якія рынуліся, не звяртаючы ўвагі на нераспрацаванасць і пэўную закасцянеласць моватворчай палітыкі ў айчыннай філалогіі адносна масіва беластоцка-падляшскіх і іншых памежных этнічнародных гаворак Белай Русі, ахвярна ўзяўшы на сябе ўздыманне такога цаліннага дзірвана, дзе цяжка здабыць славу і прызнанне, і дзе не раз адчуеш сябе пераможаным.

Школа беластоцкіх літаратараў свядома імкнулася, абмінаючы постсацыялістычную эпоху, увесці беларускую літаратурную традыцыю адразу ў рэчышча сучасных развітых еўрапейскіх моў і літаратур, якім бы па сіле было адлюстраваць усю складанасць і шматграннасць часу, на што патрабаваліся развітым літаратурам вякі. Для такіх смелых спроб патрэбна было і надзвычайнае моўнае чуццё, падсвядомае адчуванне скрытых законаў моўнага развіцця. Мабыць таму, у шматлікіх дыскусіях нашага часу па многіх спрэчных пытаннях, іх прамежкавая пазіцыя, як відавочна, у нечым і найбольш правільная:

*Над пожняй счарнелай, над з'езджаным полем,*
*Над каменем гострым, над каменем гладкім...*
*Як цяжка таму, хто ведае болей,*
*Стаптанага жыта збіраці астаткі,*
*Не меўшы надзеі, хоць маючы Слова,*
*Якое з пачатку сусвету гучала...*
*О, Ойча, Ты ж нашаю, простаю мовай*
*Сказаў жа: „Хай будзе!" — і ўсё так паўстала.*
(Замова, с. 40)

Чым жа вабяць творы Міры Лукшы? Чытачоў захапляе складаны, і ў той жа час арганічна просты, вобразны свет яе твораў, дзе перапляліся нацыянальная даўніна, падзеі мінулай вайны і шматаблічная сучаснасць. Яе творы — летапіс жыцця роднага краю, бо гаворачы словамі адной з яе герань: „А для навукі... трэба запісаці, што дзе е, каб посьлей ні сказалі, што тут нас заўсім ні было" (Выспа, с. 45).

І гэтае адчуванне адказнасці за родны край дае надзвычайны плён, выяўляецца ў багацці паэтычнага падтэксту. Лірычны герой вершаў М. Лукшы літаральна захоплены чароўным светам даўніны і мастацкімі вобразамі нацыянальнага фальклору. Адсюль пры ўзнаўленні пластоў далёкага мінулага ў аўтаркі заўважаецца фальклорна-рамантычны падыход да гістарычных падзей, трансплантацыя іх нібы праз трызненне ў сучаснасць.

Нацыянальная даўніна для яе гэтак жа рэальна жывая, як сучаснасць, яна паўстае ў колерах і гуках, ва ўсёй паўнаце і рэальнасці адчування:

*... а вочы ў цябе*
*як паўночны мох*
*мяккі і жорсткі —*
*алень што паднябенне*
*мае ядвабнае скажа*
*які смак паўночнага моху —*
*я не асмелюся*
*калі*
*палае паўночнае ззянне*
*маўчым*
*маўчым князь.*
(Замова, с. 37)

Адметнасці гістарычнага светабачання аўтара якраз у тым, што яно неадменна прысутнічае ў асэнсаванні любой жыццёвай з'явы. Падзеі сучаснасці, малюнкі роднай прыроды, духоўны свет герояў выяўлены ў непарыўнай повязі часоў:

*У тумане сівы конік*
*Праляцеў над росным лугам.*
*Малы конік танканогі*
*Ў мгле пакінуў цёплы сьлед.*

*Перабегшы рысьсю памяць,*
*Ружавее сёньня, позьні*
*Над халоднымі лугамі*
*Конік дрогкі, іншы сьвет.*
(Есьць, с. 25)

Часамі ў лірычных вершах М. Лукшы выяўляецца моцны эпічны пачатак. У развіцці паэтычнага сюжэта амаль заўсёды прысутнічаюць драматычныя моманты.

Якраз на спалучэнні лірычнага і эпічнага адбылося цікавае жанравае ўзбагачэнне, фігуры лірычных герояў набылі буйны план, атрымалі асаблівую, амаль баладную, значнасць і сімвалічнасць. Відаць, сапраўднае майстэрства і ў тым, каб звычайнай жыццёвай сітуацыі, спалучэнню чалавечых душ і характараў з дапамогай адпаведнага прыёму надаць элементы асаблівага, ледзь не баладнага, эпіка-драматычнага гучання:

*У белую нядзелю*
*паедзем у сьвет*
*на срэбнай кабыліцы*
*у вуздэчцы з зорак.*
*Захмеленым ранкам*
*у вечнай дуброве*
*нап'емся вадзіцы*
*з крыніцы празрыстай*
*з жывою вадою.*
*Абмыем далоні*
*і чорныя вочы,*
*дамо піць кабыліцы,*
*і ў пырсках халодных*
*адыдзем у сьвята,*
*сьвятыя, як дзень.*

Пра асаблівыя магчымасці лірычнага верша ў традыцыях эпіка-драматычнага гучання сведчыць адзін з лепшых вершаў зб. „Замова" — „Шагал". Сама па сабе трагедыя геніяльнага мастака, вымушанага жыць далёка ад Радзімы, пададзена нібы ў двух планах: трагедыя Радзімы, многія лепшыя сыны якой на працягу гісторыі даволі часта вымушаны пакідаць яе і пакуты сына, адарванага ад Айчыны.

*Усё хапаеш у далоні агонь —*
*Чысты боль паэта, прарока.*
*Горкім сокам спаўзе у далонь*
*З пэндзля фарба слязой адзінокай.*

Як у паэтычных, так і ў празаічных творах аўтаркі важную ролю заўсёды іграюць буйныя вобразныя адзінкі, як, напрыклад, мастацкая дэталь, якая ў М. Лукшы заўсёды нечакана трапная і асабліва адметная, далікатная, з усімі рэчыўнымі падрабязнасцямі: *Дзьверы суха рыпнулі. Дзяўчына пераступіла парог. На падлозе кухні ляжала рассыпанае зерне пшаніцы. Насупраць уваходу ўбачыла люстэрка, заслоненае вышываным ручніком.*

*Ля пліты вісеў хвартух. Яго фалды ўлажыліся і застылі пуката, быццам хацелі захаваць упэўнены кшталт гаспадыніняга цела. Пад ім стаялі гумовыя чобаты з грудкамі бруду з-пад хлява, з якіх адышоў ужо пах сьнегу, растопленага на кволым перадвесным сонейку, перамешанага з конскім навозам і сеннай трухою.*

*Сьлёзы мелі смак вады зь ледзяшоў з-пад страхі, калі Бася, асьлепленая амаль веснавым сонцам ішла ў бок цёмнага лесу, на чыгуначную станцыю* (Выспа, с. 52).

Асобнага разгляду варты арсенал вобразных сродкаў паэткі, у першую чаргу сістэма яе тропаў.

Невыпадкова метафару, параўнанне даследчыкі спадабняюць вобразнай маланцы, што выкрасаецца пры збліжэнні паняццяў, абуджаючы ў нас шматлікія вобразныя асацыяцыі. Многія літаратуразнаўцы называюць тропы рухавіком паэтычнага вобраза. Гэта сапраўды разрады вобразных навальніц у аб'ёме лірычнай прасторы верша.

Смеласць вобразных рашэнняў паэткі ідзе менавіта ад таго, што ў абсяг яе метрычнай прасторы ўключана ўся глыбіня часу і жыцця, таму тропіка і асацыяцыі бяруцца з глыбіннага кола паняццяў. Пра сваё каханне лірычная гераіня мысліць скразнымі метафарычнымі сімваламі:

*я падаю табе руку*
*ты даў мне купленую ружу*
*мая далонь крываточыць з тае пары*
*стыгматамі расьпятае любові*
*веры*
*маю надзею:*
*не прыйдзецца мне падаць*
*руку чалавеку*
*на прывітаньне*
(Стыгматы, зб. „Есьць", с. 33).

Важна і тое, каб верш, апрача кампазіцыі знешняй, адбыўся на інтанацыйным узроўні. Як лічаць даследчыкі, на гэтым унутраным плане павінна інтанацыйна рэалізавацца развіццё лірычнага дзеяння. Калі гэтае ўнутранае дзеянне ў вершы ёсць — ёсць і сам верш, і ён палоніць нас загадкавым святлом, што праменіцца з яго патаемных вобразных нетраў. Здаецца і так, што пры адсутнасці пэўных знешніх прыкмет вобразнасці, верш валодае дзіўнай, амаль магічнай сілай уздзеяння:

*не прызямліцца бязногаму птаху*
*на жывой незагойнай вечнай ране*
*і толькі піць крычыць*
*салёнае вады піць просіць.*

Натуральнасць і сіла пісьменніцкага дару М. Лукшы ад таго, што яна своеасаблівымі прыёмамі размыкае кампазіцыю, даючы адчуць жыццёвую рэальнасць за прасторай твора. І калі асноўная тэма творчасці пісьменніцы — тэма бязлітаснай праўды жыцця, то асноўны герой яе твораў Яго вялікасць роднае слова:

*і ўпала насеньне*
*з коласа сьпелага*
*поўнага*
*і пад камень*
*і паміж асоты*
*і ў чорную глебу*
*і на ўзбочыны*
*тысячы сьцежак*
*і заквітнела расьліна*
*і кветку сваю аддала*
*вандроўнікам, —*

нацыянальная мова, што ўсяму дала найменне: пакутам, марам, змаганню за долю і волю, праўду і годнасць чалавека, за правы землякоў і Айчыны на шчасце, павагу і пашану сярод іншых людзей і народаў.

**Алена Яскевіч**

# Малы, пазыч тысячу!

— А як пачынае кар'еру бандыт? Найперш абкрадае дзяцей, пазней жанчын і старэч, аж урэшце некага задушыць, — разважае маці Тамаша, настаўніца матэматыкі адной з беластоцкіх *падставовак*. — Сама чула як бамбізы забіраюць бутэрброды ці грошы слабейшым і малодшым. Дзеці баяцца гаварыць пра такія справы, а дарослыя быццам бы не заўважаюць праблемы. Разбой сярод дзяцей — тэма паскудная, рассакрэчвае бяссільнасць бацькоў, настаўнікаў, аўтарытэтаў, — гаворыць настаўніца.

Яна не праігнаравала выпадку свайго дзевяцігадовага Тамаша. Справа папала ў суд.

### Паводле Тамаша:

— Ішоў я ў касцёл на імшу ў адзінаццаць. Мама дала мне дванаццаць тысяч злотаў. Старых, зразумела. У палове дарогі, на вуліцы Н., зачапілі мяне два незнаёмыя хлопцы. Меншы, у белых шкарпэтках і скураной куртцы, папытаўся пра гадзіну. А большы, з доўгімі валасамі, адышоў набок і разглядаўся. Рукі трымаў у кішэнях.

— Малы, пазыч тысячу! — пачаў той меншы. То я яму кажу, што не маю.

— Ой, хіба маеш, — і ўзяўся за мае кішэні.

На вуліцы нікога не было. Тады я падумаў, што трэба даць тысячу. Даў дзесяць грошаў.

— Давай яшчэ тысячу, — прыгразіў многімі брыдкімі словамі той у белых шкарпэтках.

— Маеш яшчэ?

— Маю, — кажу, — але не дам больш. Не хацеў траціць залатоўкі.

— Бо цябе падзюраўлю, — пачаў той разбойнік і паказаў мне нож.

Аддаў я залатоўку, не было рады.

А тыя хлопцы праверылі яшчэ мае кішэні і пабеглі. Я адразу пайшоў у паліцыю. Там паслухалі пра маё здарэнне і падаліся лавіць злачынцаў. Я сам параў заглянуць у салон тэлевізійных гульняў „Нью-Йорк". А як жа, былі там тыя хлопцы. Перапалохаліся, калі пабачылі паліцыянтаў. У большага, таго з доўгімі валасамі, знайшлі мае грошы. Трымаў іх у шкарпэтцы. Іх павезла паліцыя на пастарунак, а я пайшоў у касцёл, падзякаваць Богу, што гэтыя *драбы* будуць пакараныя.

Тамаш мае пачуццё добра выкананага абавязку. Сам ён выдатнік, іграе ў шахматы, любіць чытаць кніжкі. У будучыні хацеў бы стаць падарожнікам.

— Або дэтэктывам, — задумоўваецца хлопчык.

### Паводле Каміля:

— Кожную нядзелю праводжу ў салоне „Нью-Йорк". Там *файнэ хлопакі*. З рання, разам з Давідам, выпілі віно, такое за васемнаццаць тысяч. Пахмелле аднак не праходзіла. Патрэбныя былі зноў грошы. Тады мы вырашылі пазычыць іх у маёй дзяўчыны. Не было яе ў хаце і мы былі з-за гэтага страшэнна вк... Можа таму зачапілі малога. Касу ў нас, традыцыйна, трымае Давід, таму ў яго, а не ў мяне, знайшлі тыя грошы.

Я цяпер хацеў бы пакончыць з такім жыццём. Мама кажа, што згнію ў крымінале. Ужо тры гады будзе як разам з Давідам зачапляем такіх дзесяцігадовых хлопцаў-адзіночак. Найчасцей у заапарку або над Бялкай. Мама ніколі не давала мне на цукеркі. А бацька толькі папругай палохаў. Цяпер як хоча пабіць маму, то зважае, бо я яму таксама магу впер...

Камілю пятнаццаць гадоў. Адукацыю закончыў на сёмым класе.

— Пасля *папраўчака* найду працу, буду памагаць маме, — верыць Каміль.

### Паводле Давіда:

— Не, я не абкрадаў гэтага г... Ад чорнай работы ў нас такія як Каміль. Не памятаю ўсіх крадзяжоў. Хадзіў не толькі з Камілем, але і многімі *хлопакамі з оседля*. Працы не шукаў бо цяпер жа такое беспрацоўе. Вк... мяне такая размова, я, папраўдзе, псіхічна хворы, — адрэзаў цынічна юнак.

На сваё няшчасце скончыў ён васемнаццаць гадоў і папаў пад параграф 210. Камбінаваў у сваім стылі. Не паехаў на псіхіятрычнае абследаванне, памяняў месца прабывання, не з'явіўся на судовай расправе. Працаваў нават месяц на будове.

— To dobry chłopak, tylko z rozbitej rodziny, — жаліцца маці, фарбаваная бландзінка.

— Ten sk... nas porzucił jak zachorowałam na gruźlicę, — гаворыць пра бацьку ў прысутнасці сына.

— Каб быў бацька, то не было б такога, — кабета ў гэтым упэўнена. Сама яна ўжо пенсіянерка. Успамінае сваё складанае жыццё, усіх мужчын свайго жыцця і гісторыю хваробы. Ад праклёнаў трашчаць сказы. У паветры пахне роспаччу.

Школу Давід ледзь скончыў. Паўтараў шосты і восьмы класы. Не мае планаў на будучыню.

— Mnie to wszystko g... obchodzi, — адзначыў прыгавораны да турэмнага зняволення юнак.

### Паводле маці Тамаша:

— Справу трэба было падаць у суд, — кажа ўпэўнена настаўніца. — Бо як мне выхоўваць сына? Калі б расказаць такому дзіцяці пра жорсткасць свету, то хлопец перастане вучыцца і марыць. А праігнараваць здарэнне, значыць, насцярожыць дзіця супраць бацькоў. І навошта ўсё тэорыі пра справядлівасць і маральнасць?

**Эва Сцепанюк**

P.S. Імёны герояў зменены.

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# Вочы

*„Найцяплейшая ноч у лістападзе*
*на могілках —*
*ад свечак*
*і кветак,*
*і пачуццяў...”*

*Барыс Руско*

А мне тыя могілкі давялося наведаць у жніўні. Праўду кажучы, на ніякія могілкі мы не збіраліся і нават раней не прыкмецілі, што яны там ёсць.

Дзень быў халаднаваты — вырашылі, што варта праехацца (адпачывалі ў пяці кіламетрах ад Сувалкаў) далей на поўнач. Можа, у Смольнікі, можа ў Віжайны, а мо на Копную Гару. Усюды тут была такая прыгажосць.

Мы не спяшаліся. Ехалі паволі, разглядаючыся навокал. Выязджаючы з Сувалкаў, з правага боку ўбачылі акуратныя могілкі і спыніліся. Варта было паглядзець: столькі сёння гаворыцца пра магілы закатаваных салдатаў другой сусветнай вайны, а табліца пры ўваходзе інфармавала, што тут пакоіцца астанкі савецкіх салдат і афіцэраў, загінуўшых ад рукі нямецкіх фашыстаў. Сорак пяць тысяч ваеннапалонных і пяць тысяч тых, што загінулі пры вызваленні Сувалкаў ужо ў самым канцы вайны. Жах агарнуў нас.

Пайшлі адразу направа. Роўныя рады брацкіх магіл маўкліва прывіталі гасцей. Скромныя шэрыя таблічкі на кожнай з магіл інфармавалі, колькі чалавек тут пахавана: шэсцьдзесят, сто, болей... Відаць было, што тут пакояцца забітыя ваеннапалонныя, а мо і загінуўшыя салдаты, Бог яго ведае.

Пасярэдзіне могілак мы заўважылі інфармацыйную дошку, на якой было напісана, што спіскі пахаваных на гэтых могілках салдат і афіцэраў захоўваюцца ў Сувальскай гарадской радзе (яшчэ не ва ўправе). О, дык прынамсі нейкі след па людзях застаўся, падумалі мы.

Мы хадзілі паміж магіламі і было так ціха і спакойна, як можа быць толькі на могілках. Усё ўжо сказана, усё зроблена. Яны адышлі ў нябыт. Нават лёгкі ветрык, быццам баючыся парушыць іх спакой, ледзь-ледзь кранаў лісце немаладых ужо дрэў, згорбленых над магіламі. Свяціла сонца.

Некаторыя магілы былі, так сказаць, адзінарныя. У іх быў пахаваны адзін чалавек, была і таблічка, на якой было напісана імя і прозвішча загінуўшага, а нават яго званне. Далей налева такіх магіл было значна больш. На некаторых былі нават пастаўлены сапраўдныя помнікі. Глядзі ты, з Міншчыны! А тут ляжыць хлопец з Віцебшчыны, а там з Гомеля.

Ага! Родзічам з Беларусі да сваіх хлопцаў бліжэй. Даведаліся з архіваў, дзе яны пахаваны, і паставілі ім помнікі! Нават — па тамашніх звычаях — са здымкамі, зробленымі ці не на фарфоры.

Але што гэта?! На адным са здымкаў беларуса я ўбачыла выдзеўбаныя вочы. Клічу сваіх, а яны кажуць, што і ў іх тое самае. І сапраўды, усюды, дзе толькі былі фотакарткі, нехта павыкалупваў вочы. Па целе прайшлі дрыжыкі. Гэта ж нехта мусіў узяць і спецыяльныя прылады, а прынамсі долата і малаток, каб зрабіць гэта так памастацку. Усяго партрэта не сапсаваў, а толькі выкалупаў вочы. Майстар!

Успомнілася мне вайна, якую бачыла я вачыма пяцігадовага дзіцяці. Каля бабулінай вёскі немцы забілі шаўца. Людзі хадзілі глядзець, але ніхто не адважыўся паведаміць яго сваякоў у суседняй вёсцы. Пайшлі глядзець і мы з бабуляй. Памятаю гэты абразок да сёння. Свяціла, як сёння, сонца. Шавец ляжаў, распасцерты каля спелага жыта ў белай-белай кашулі з сінімі палоскамі. Толькі на шыі была чырвоная яшчэ кроў ды груганы паспелі ўжо яму выдзяўбці вочы. Дакладна. Замест адчыненых вачэй засталіся чорныя дзіркі. Не, не можа быць, каб зрабілі гэта людзі, хаця і немцы, казалі вяскоўцы. І бабуля мяне суцяшала, што гэта груганы, бо па тым, як яны там лёталі, людзі і даведаліся, што там ляжыць нехта забіты...

Дык мо і на гэтыя сувальскія могілкі наведаліся крываважэрныя груганы і выдзеўблі вочы на фатаграфіях зусім несвядома, думаючы, што выпіваюць жывыя вочы чалавека?!

Не, не маглі гэтага зрабіць людзі! Ці ж не ведалі яны, што ўжо маці гэтага хлопца выплакала свае вочы, не дачакаўшыся з вайны свайго сыночка, свайго першынца. Два месяцы засталося яму да Берліна, да заканчэння крывавага кашмару, што выпаў на яго лёс, калі, гонячы немца з Сувалкаў, належыў галавою...

Нечая спагадлівая, богабойная рука кінула на дзе-якую магілу ружачку, і гэта дазволіла нам меркаваць, што ўсё ж ад часу да часу бываюць тут і людзі і што гатунак *homo sapiens* яшчэ не цалкам вымер.

**Ада Чачуга**

P. S. Якім дзіўным парадкам змяняюцца паняцці. Сёння палякам — былым салдатам нямецкага вермахта хочуць у нас далічыць да пенсіі гады службы ў гэтай надзвычай *справядлівай* установе. Пэўна, салдат ёсць салдат. Яго справа — выконваць загады.

Навошта ж гэтаму спарахнеламу ўжо салдату, ваеннапалоннаму, выкалупваць вочы на тым, што па ім засталося — на яго партрэце...

**А.Ч.**

# ПАГАВАРЫЦЬ З ТУРКАМ

Што трэба турку, які збіраецца ў Беларусь? Вядома, турэцка-беларускі размоўнік. Хаця б дзеля гэтага, каб ведаць, як сказаць: „хачу перазімаваць”, „месца парожняга ці няма нанач”, „зарабіць”, „ніхто дарма не дасць”, „трэба на кірмаш” ці „дзень добры” і „добы вечар”. Я ўжо чую галасы, навошта такі слоўнік, калі пры сённяшнім „двуязычьи” ўжо і самім беларусам не разабрацца ў сваёй мове, не то што нейкім там туркам. Дык цяпер пэўна ніхто і не працуе над такім слоўнікам.

„Турэцка-беларускі размоўнік” быў складзены яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя ў асяроддзі беларускіх татар, каб служыць, хутчэй за ўсё, падарожнаму з Беларусі ў Турцыю, які ведаў беларускую мову і арабскае пісьмо. Віленскі даследчык беларускага пісьменства арабскімі літарамі Антон Антановіч лічыць, што размоўнік склаў у Слоніме (не раней 1836 года) Мустафа Шагідзевіч, аўтар аднаго з кітабаў. Рукапіс, які знаходзіцца ў Нацыянальным музеі Літоўскай Рэспублікі, у друк падрыхтавалі Галіна Александровіч-Мішкінене і Сяргей Шупа, а выдаў Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку*).

Слоўнік гэты не надта аб'ёмісты — каля тысячы лексічных адзінак. Але, як пішуць рэдактары, тэматыка змешчанага ў ім матэрыялу „даволі шырокая й разнастайная”. І далей: „Яна можа стацца крыніцаю зьвестак аб сацыяльна-эканамічным статусе беларускіх татараў, міграцыйных працэсах, характары іх дзейнасьці й занятках на тэрыторыі Асманскай імпэрыі”. Складальнікі вылучылі наступныя тэматычныя раздзелы: гандлёвыя кантакты, знаёмства, мова і рэлігія, чалавек і часткі цела, будаўніцтва, сельскагаспадарчыя работы, падзённая наёмная праца, наём фурманкі і падарожжа, жывёльны свет і паляванне, адзенне, прыродныя з'явы, харчаванне, посуд, конь, збожжа і харчовыя прадукты, ваенная справа, забавы, лячэбнікі, дні тыдня, прадметы побыту, пошукі працы і жытла, прывітанні, грошы, падарожжа праз Малдову.

Чаму варта было друкаваць гэты стары рукапіс? Аддаймa яшчэ раз слова рэдактарам: „Важнасьць ягонай тым большая, што ён быў створаны ў часе, калі беларуская мова рэдка ўшаноўвалася пісьмовaю фіксацыяй, дый тыя тэксты, што знаходзілі сабе дарогу на рукапісныя й друкаваныя старонкі, у пераважнай большасьці ўяўлялі сабою запісы фальклёру. І таму ня можа быць абыйдзены ўвагаю помнік, у якім пісанае беларускае слова было не пасіўным аб'ектам рамантычнага сузіраньня, а хавала ў сабе зарад функцыянальнае прыдатнасьці й прагматызму, дапамагала чалавеку ў вырашэньні жыцьцёвых праблемаў, а таксама было мастком да іншых культураў, прыладаю пашырэньня індывідуальнага сусьвету”.

**Мікола Ваўранюк**

P.S. Сёння „Турэцка-беларускі размоўнік” можа быць не толькі крыніцай узбагачэння ведаў філолагаў і гісторыкаў, але і практычным дапаможнікам лукашэнкаўскіх спецаў па вылаўліванні турэцкіх шпіёнаў.

**М.В.**

---------------------

*) *Турэцка-беларускі размоўнік 1836 году з збораў Нацыянальнага Музею Літоўскай Рэспублікі ў Вільні, New York 1995.*

# Плён грамадскай працы

Праваслаўны прыход у Чаромсе ўзнік з падзелу Кляшчэлеўскай і Кузаўскай парафій у 1986 годзе, калі ў пасёлку не было яшчэ царквы. Неўзабаве быў створаны грамадскі камітэт пабудовы храма, а 11 кастрычніка 1987 г. чарамшукі паклалі краевугольны камень пад будову царквы Іконы Божае Маці „Дастойна ёсць” або „Замілаваная”.

Фундамент прыхаджане пабудавалі на грамадскіх пачатках. Вернікі новаўтворанага прыхода працавалі выдатна і самаахвярна, а майстрам на гэтай будоўлі быў таксама жыхар пасёлка.

У студзені 1988 г. новым святаром у Чаромсе назначаецца айцец Юры Пліс, які адразу ўключыўся ў пабудову храма. Дзякуючы яго намаганням і самаадданасці прыхаджан у чэрвені 1989 г., у дзень прыхадскога свята, адбылося першае богаслужэнне ў незавершанай яшчэ новабудоўлі.

Пабудова царквы была закончана ў 1991 годзе. Кошт гэтай інвестыцыі а. Юры Пліс ацэньвае on некалькі мільярдаў старых злотаў. Грошы на пабудову паходзілі з прыхадскіх фондаў і ахвяраваннях вернікаў з навакольных вёсак. Можна смела сказаць, што чаромхаўская царква — гэта плён грамадскай працы.

11 кастрычніка г.г., пасля васьмі гадоў ад закладкі краевугольнага каменя, Яго Блажэнства, Блажэннейшы Васілій, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы высвяціў новую царкву. Ва ўрачыстасці прысутнічалі многія святары з навакольных прыходаў, а таксама прадстаўнікі духавенства з Высокага (Беларусь) і Брусэля (Бельгія). Мітрапаліт Васілій падзякаваў прыхаджанам за ўклад у пабудову царквы, а найбольш заслужаных узнагародзіў медалямі Марыі Магдаліны і ганаровымі граматамі. Айцец Юры Пліс атрымаў залаты нагрудны крыж.

**Уладзімір Сідарук**

21-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

# Пра багача і Лазара

*(Лук., 16: 19-31)*

У сённяшнюю нядзелю прыпадае для чытання ўрывак з 16-га раздзела Евангелля паводле Лукі — прытча пра багача і Лазара. Багач, гэтак жа як і ягоныя браты, жыў бестурботна і раскошна. Лазар — бяздомны і бедны — ляжаў ля варотаў багацея, разлічваючы прынамсі на рэшткі з ягонага стала, але не давалі яму нават і гэтага. У свой час памерлі абодва і Лазар апынуўся „на лоне Аўраамавым”, багач жа — у пекле. На просьбу аблягчыць яму ягоныя пакуты багачу было сказана: „Прыпомні, што ў жыцці тваім ты меў добрае, а Лазар — благое; цяпер жа ён пацяшаецца, а ты церпіш вялікія мукі”. Калі прасіў прынамсі папярэдзіць ягоных братоў, каб апаматаліся і пазбеглі такога ж лёсу, багач пачуў строгі адказ: „У іх ёсць Майсей і прарокі, хай іх слухаюць”, а калі іх не слухаюць, „то калі б хто і з памерлых уваскрос — не паверацъ”.

Багач і Лазар — адзін з найбольш яркіх, звышчасовых евангельскіх сюжэтаў. Падобныя ім людзі жылі і жывуць у кожную эпоху. Перанасычанасць адных і галаданне іншых, роскаш і пакуты — адвечныя з'явы. Пасля 20-ці стагоддзяў ад евангельскіх часоў, свет поўны людзей багатых і бедных, прычым багатыя пераважна яшчэ больш багацеюць, а беднякі — беднеюць. Аднак непазбежна прыходзіць час, калі заслона ападае і працяг наступае ўжо ў іншым свеце, перад абліччам Бога, да Якога належыць суд і апошняе слова.

Евангелле ставіць націск не на безумоўнае ўстанаўленне справядлівасці, але на ейны духоўны аспект. Не было заслугай аднаго, што нарадзіўся ў палацы, ні віною другога, што ўсё жыццё быў бяздомны. Багач быў асуджаны не за само багацце, але за дрэнное і самалюбнае карыстанне ім. Лазар таксама быў збаўлены не за сваю беднасць і не дзеля самой кампенсацыі крыўдаў перажытых у зямным жыцці. Ён пакорна цярпеў сваё гора, магчыма як заслужанае, нікога не праклінаў і нікога не вінаваціў. Калі аднак багачу сумленне дазваляла банкетаваць на вачах змізарнелага, галоднага Лазара, дык чаша цярпення перапоўнілася. Людзі могуць сабе, бы евангельскі багач, разлічваць і спадзявацца толькі на зямное жыццё, але яны расчаруюцца. Бог аддасць кожнаму паводле заслугаў, калі не ў гэтым, дык у будучым жыцці.

Евангельская прытча пра багача і Лазара не хваліць няроўнасці. Яна проста канстатуе той сумны факт, што гэтак, як неаднолькавыя дрэвы ў лесе, пры любым грамадскім ладзе ўсё роўна будуць дыспрапорцыі. Румынскі дыктатар Чаўшэску захапляўся сацыялізмам, але не сабе, а толькі народу запэўніў ён роўнасць у галечы. Партыйная наменклатура таксама гаварыла пра роўнасць і справядлівасць, але жыла як магнаты. Калі ніякая грамадская сістэма не гарантуе роўнасці, дык справа прынамсі ў змякчэнні праблемы. Бальшавікі лічылі, што можна „грабіць награбленае”, што калі нехта мае дзве кашулі, трэба яму забраць адну або нават абедзве, аднак рэвалюцыі і гвалты не прынеслі дабрабыту. У 20-я гады бальшавікі аграбілі з каштоўнасцей тысячы храмаў, знішчыўшы бясцэнныя творы мастацтва, аднак не ліквідавалі праблемы голаду.

Евангелле вучыць, што галоўная прычына ўсіх бедаў і несправядлівасці не матэрыяльная, але духоўная. Усяму віноваты чалавечы эгаізм, няўвага да праблемаў іншага чалавека, адвечны дэфіцыт дабра і міласэрнасці. Багач меў права быць багатым гэтак, як сучасны прадпрымальнік не мусіць быць злодзеем. Святы Іаан Залатавуст гаварыў: „Я не супраць твайго багацця, я супраць тваёй скупасці”. Багач быў проста маральна абавязаны не дазволіць, каб ля ягоных варотаў ляжаў бяздомны і галодны Лазар. Такое нахабнае, самалюбнае багацце стане косткай у горле нават ужо ў гэтым жыцці.

Евангельскі сюжэт з багачом і Лазарам праўдападобна будзе бясконца паўтарацца ва ўсе часы і людзі будуць бясконца намагацца справіцца з гэтай ненармальнасцю. Для вернікаў у гэтым пытанні аўтарытэтнымі павінны быць словы Святога Пісання: „Не меў лішняга, хто меў многа, і хто меў мала, не меў недастатку” (2 Кар., 8:15).

**а. Канстанцін Бандарук**

# Раман і Юля

*(быль)*

— Што з табою, Раманчык, што так шапялявіш?

— Зубоў, Юлечка, нямашака, і паставіць няма за што...

— Ой, дурненькі такі... То ж прыязджай, што ж зробіш...

Баба Юлька адкладае тэлефонную трубку на апарат сваёй сухой белай далонню. Папраўляе вузел хустачкі пад барадою, памаленьку падымаецца з рыпучага плеценага крэсла ў пярэдняй і з нахіленым станам, апіраючыся аб сцяну сунецца ў кухню.

Нядужая цяпер баба Юлька, прыхварэла. Паўгода таму ніхто ў такой хустачцы яе б не ўбачыў. На працу ў чэпчыку хадзіць. Ї валасы фарбавала хною, клала па дзве пачкі на сваю густую капіцу моцных, жорсткіх валасоў, і набіралі яны каштанавага колеру з медным адценнем. Ї фігура Юльчына толькі нядаўна страціла фасон, і бясспльна выглядае нядаўна горда трыманая галава з буйным вянком касы наўкол чэрапа над лебядзінай гнуткай шыяй і высокай груддзю ў белым халаце. Працуе бабка Юля трыццаць сёмы год медсястрой у бальніцы ў горадзе, які вырас у яе на вачах. Паўгода таму ў Юлі Кавальскай быў інсульт, і цяпер прыхodзіцца ёй больш думаць і пра сваё здароўе.

З Раманам Кавальскім пазнаёмілася на забаве. Толькі што пачала працаваць у бальніцы, знаёмых у яе не было шмат. Малады, прыгожы высокі хлапец у вайсковай форме вельмі ж спадабаўся маладзенькай медсястры ў блакітнай сукеначцы ў звон. Юлька стаяла ў групцы вясёлых напаказ дзяўчат, зіркаючых на шыкоўных кавалераў, што прыехалі з акалічных вёсак на працу ці ў армію. З паненак было найбольш бойкіх дзяўчат працуючых на фабрыцы, яны і першыя кінуліся ў танцы. Юлька пагладжвала складкі сукенкі і сціпла заўсміхалася, гледзячы на боты, калі да яе падышоў чарнявы юнак з вясёлымі вачыма. З кожным іншым барджэй пайшла б ёй размова, чым з гэтым, які ўмомант давёў ейнае сэрца да таго, што білася яно ў грудзях як злоўленае ў далонь птушаня. Раман, бо так называўся прыгажун, канчаў ужо служыць у Х., збіраўся спачатку вярнуцца на бацькаўшчыну, у падкялецкую вёску, а пасля зачапіцца недзе ва Усходняй Прусіі ці ў шахтах. У вёсцы, апрача бацькоў і камяністых палосак чакала яго нейкая Марыля (аб гэтым данёс Юльцы Коля Захарэвіч, што служыў разам з Раманам), адзіная дачка грамадаўскага багацея, і яе лісты ў блакітных канвертах штотыдзень чытаў усяму атраду шчаслівы адрасат. Марыля пісала вельмі ж прыгожа, як з нейкай кніжкі, і ваякі спісвалі ўсе гэтыя прыгоствы ў свае лісты, маняючы толькі імёны і некаторыя факты. Напэўна, рабіла тая літаратура ўражанне на дзеўках. З несхаванай зайздрасцю распытвала Юлька пра таямнічую Марылю ў хлопцаў. Бачылі яны, казалі, прыязджала яна з сяброўкай, тую другую з асалодай успамінае ўвесь батальён, а Марыля глядзела ў вочы яму аднаму — Раману. А калі кавалер загаварыў Юлі, быццам нейкі верш пра каханне зачытаў, не сцярпела яна, і хоць сэрца сціснулася, запытала:

— Ты што, Раманчыку, Марылінім вершам мяне спакушаеш? Адной пра каханне гаворыш, і другую зводзіш? Гэта ж нельга так гуляць пачуццямі людзей, якія цябе кахаюць!

— Я ж нічым не гуляю! Я ж цябе па-сапраўднаму кахаю, навекі! Кожная на тваім месцы мне паверыла б ужо даўно! На калені перад табою падаю, глядзі!

— То ажэнішся?..

— Вядома, чаму ж нам не пабрацца! Давай паедзем да тваіх бацькоў, няхай рыхтуюць вяселле, колюць падсвінкаў...

Закалолі, вядома, не аднаго, і два бычкі пайшлі пад нож, і курэй пару тузінаў... Шлюб бралі толькі ў Грамадскай радзе. Белую атласавую сукенку пазычыла Юлька ў сяброўкі, тая яе ў Прусах ад нямкіні купіла. Добра ляжала слізкая тканіна на гарачым целе, не магла дачакацца Юлька першае свае жаночае ночы, як у тумане ўсё кружылася ёй перад вачыма. Тры дні гудзела вяселле, не сціхалі песні. Раман ніяк не мог дайсці ў сваёй цяжкай ад самагонкі галаве, куды трапіў, адкуль тут, апрача „Шла дзевэчка да лясэчка", „Сядла пшчулка на яблоні" і „Плынол струмык пшэз зялёны ляс", якія прагучалі на пачатку балю, пайшлі нейкія „рускія" песні, пачынаючы ад „Бадзягі", што старыя прывезлі з бежанства. Украінскія, рускія, беларускія, а словы кожнай з іх кожны госць пяяў на свой спосаб, на свой лад, боназбіралася вясельнікаў з пяці вёсак, а ў кожнай з іх — свая гаворка. Ї пра няшчаснага Колю-трактарыста са слязамі на вачах спявалі людзі, бо таго Колю ведалі — нядаўна ж усё гэта было, і частушкі рубалі, што „за савета" ўвайшлі ў моду... А ад Рамана не прыехаў ніхто. Можа таму, што вяселле так хутка рашылі згуляць, ці можа лісты не дайшлі?..

Яшчэ гуло ў галовах вясельнікаў, лечылі яны свае балючыя чэрапы і перасохлыя гарлякі апошняй „горкай водкай", як Раман з Юлькай, з чамаданамі ў руках, пашпарылі на чыгуначную станцыю — паехалі дамоў, у Х., на Юльчыну кватэру.

Жылі там тыдзень. Юльцы спагадлівы доктар выпісаў паперку на тыдзень хваробы. Не вылазіла яна, сапраўды, з пасцелі, нават паесці, бо шкапчык з ежай падсунулі да ложка. Калі трэба было маладой жонцы збірацца на працу, Раман пайшоў у краму купіць хлеб і запалкі.

Не вярнуўся. Праз два месяцы ў Х. прыйшоў ліст з Бяшчадаў. Там „зачапіўся" Раман Кавальскі, лесапільшчыкам. Зарабляе добра, піcаў, але патрэбен яму час усё перадумаць, уладзіць свае справы. Вядома, кахае ён моцна сваю дарагую жоначку, але, на жаль, пакуль не можа да яе вярнуцца ні тым больш забраць Юлю да сябе. Ашчаслівіць яе не ў змозе, а, несумненна, варта яна шчасця. Ну, калі так выходзіць, няхай яна тое шчасце шукае...

Не мела часу Юлька думаць над прачытаным. Цяжарнасць праходзіла ў яе вельмі непрыемна, цяжка, але да апошніх дзён прыйшлося хадзіць ёй на працу. У пятніцу ноччу была на дзяжурстве ў бальніцы, а ў панядзелак раніцай, пасля адзінаццаці гадзін родаў, мела ўжо сына — тоўсценькага і здаровенькага. Назвала яго Волесем.

Тры гады Волесь сядзеў у вёсцы з бабуляй і дзедам. Калі Юлька, прыязджаўшы, не пачула ад малога ніводнага слова па-польску, залямантвала: змарнуеце мне дзіця! Рашыла яго ратаваць, аформіла ў садок. Кватэру мела ўжо сваю, службовую. Ї толькі ў яе свайго было: праца і дом, і маленькі праменьчык — Волесік. Ї ўсё чакала лістоў ад Рамана. Не мог жа так яе кінуць, так прыгожа гаварыў пра каханне, і пісаў жа ж, што ніколі не забудзе... Ї сынок жа ў яго ёсць, як жа дзіцяці без бацькі гадавацца! Напісала да Раманавых бацькоў, паведаміла аб дзіцяці, так адрас напісала: *паньству* Кавальскім, вёска М., Кялецкае ваяводства. А паньства Кавальскія той ліст атрымалі, і нават адказалі: не жонка ты касцельная нашаму сыну, а распусніца і спакусніца, а жонка ў яго з нашага боку, каталічка, Марыля з дому Завадскіх, і дачка ў яго маленькая... Ї ад Марылі таксама ліст прыйшоў, з размазанымі ад слёз фіялетавымі літарамі, і быццам тыя літары, тыя словы выводзіла не тая рука, быццам гэта не Марыля пісала, тая рамантычная паэтка, якой лістамі захапляліся нядаўна жаўнеры і іхнія дзяўчаты. Проста напісала Марыля Юлі: звычайны хам наш муж Раман, лодыр і прайдзісвет, хлуснік і хуліган. Гадуе ад яго Марыля дачушку, і добра, расце малое, і яшчэ лепш, што татку чэрці ў свет панеслі, хай яму сонца не свеціць, бо лепш такога бацьку дзіцяці не бачыць; дасць Бог, выгадуецца без яго, галоўнае, што не будзе пасмешышчам для іншых, касцельны ж бацька ёсць, законны ў малое Ганусі ён... А яны, мацяркі — маладыя, здаровыя, прыгожыя, сваё шчасце ад іх не ўцячэ...

Юлька не мела ні сілы, ні часу таго шчасця шукаць. За працай і клопатам і не заўважыла, як Волесь кончыў пачатковую школу, пасля ліцэй. Цікмяны быў хлопец, выдатны вучань, памочнік матулі ды бабе з дзедам у вёсцы. Пайшоў у політэхнічны, працаваў у студэнцкім кааператыве, крыху гандлем займаўся, грош дахаты прыносіў.

Аднойчы прынёс каляровы пакуначак. Усхвалявана трымаў на руках невялікі вузялок, з якога выглядаў чырвоны тварык з кірпатым носікам. За Волесем з-заду стаяла спалоханая дзяўчына, лепш сказаць дзяўчынка, астрыжаная пад хлопца.

— Гэта мой сынок, мама. А гэта яго маці, Ася, мая аднакурсніца. Я яе кахаю, добрая з яе дзяўчына, і ты Асю будзеш любіць, я ведаю. Дапаможаш нам?..

Чатыры гады, пакуль не кончылі вучыцца бацькі, Роберт чакаў іх то ў бабы Юлі, то ў прадзедаў Ганны з Іванам. Гадаваўся. За ейнага сына бралі Юльчына малога, за позняе дзіцятка. А пасля з'ехалі Волесь з Асяй за мяжу. Калі абжыліся ў Штатах, выпісалі туды і малога. Прыйшлося бабе Юлі адправіць за акіян пятнаццацігадовага ўнука, якому пад носам вус ужо сыпаўся, высокага, дужага — на развітанне на лётнішчы падняў Роберт бабулю высока-высока, пацалаваў яе, а потым паляцеў далёка-далёка... Абяцаў лісты пісаць.

Асталася Юля адна. Не, не адна. Ёсць у яе хворыя, якімі апякуецца. Іхнія клопаты і болі — Юліныя. Ї не наракае яна, не плача, не скардзіцца, што ёй свайго гора хопіць, што ёй ад уласнае бяды цяжка, што чужая ноша ёй не па сіле і не вельмі патрэбная.

Аднойчы пазваніў у Юлінай хаце тэлефон. Стомленаю рукою падняла трубку.

— Юлечка, гэта я. Раман Кавальскі. Муж твой. Памятаеш мяне? Як там твае справы? Жывеш шчасліва? У мяне... зубоў нямашака...

— ... Прыязджай...

**Міра Лукша**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXX**

Прывяду апошні фрагмент выказванняў майго бацькі аб рэлігійных пытаннях. Выступае ў іх амаль апакрыфічная трактоўка некаторых рэлігійных праблем. Праяўляецца тыповая сялянская даслоўнасць і прастата:

„Я то ўжэ табе гаварыў, што калі стаў узрослы то перастаў маліцца, але і ні манерыўся, ні піў і ні курыў, а таксама на нікого ні клеветаў. Ну, чаму я так паступаў? Я то ні веру, што чалавек падобны да Бога. Па-моему тое, што Бог зляпіў чалавека з гліны на свае падобіе, то гэта сказачка. Ну, але дапусцім, што, так як сказано ў Біблії, Бог ест падобны да чалавека. Калі так, то я пераконаны, што такі Бог ні п'е, ні курыт, ні ругаецца, ні клявешчэ і ні молiцца. Ї таму я паступаў згодна з боскімі наказамі.

Ты знаеш, што твая маці кажды дзень моліцца, лягаючы спаці. Ї так яна моліцца ужэ ад таго моманту, як вышла за мяне замуж, гэто значыт пяцьдзесят лет. Ї ты знаеш, што за гэты цэлы час я ёй ніколі ні сказаў, каб яна ні малілася, а яна мне ніколі ні сказала, каб я маліўся. Ї мне здаецца, што так павінна быці паміж усімі людзьмі на свеці. Я, прымерно, ні знаю чы ты веруючы, чы ты ніверуючы. Гэто твае, а ні мае дзело. Толькі я табе скажу так: калі ты верыш, то нікого ні прымушай, каб ён верыў і не высмейвай таго хто ні верыт. Гэто яго дзело. Ї трэбо сказаці, што ў нас з гэтым было і ест усё нармально і добрэ. Німа тут такіх дуракоў, каб чэпляліся да другіх і лезлі з сваею вераю або ніверою. А што касаецца Бога, то мне здаецца, што калі ён ест, то ён вельмі разумны і добры. А калі разумны і добры, то ні можэ трэбаваці, каб людзі да яго без пшэрвы маліліcе. Бо і нашто гэта яму? Ён можэ толькі трэбоваць ад людзей, каб яны чэсно жылі. Ї после смерці будзе ацэньваці чалавека не за тое, колькі ў яго жыці было малітваў, але за тое, як ён чэсно жыў.

А от што касаецца нашае рэлігіі, значыцца праваслаўнае, то я ніяк ні пайму чаму гэто нашэ духавенство так моцно адданэ рускаму языкеві а вогуле ні інцерэсуецца языком беларускім. Ну, я панімаю, што само набажэнство то можэ сабе выкарыстоўваць славянскі язык, але пропаведзі чаму праводзяцца па-руску, то я гэтаго ніяк ні магу паняці. А яшчэ больш ні панімаю, чаму гэто многі папы ў цэркві гаворат па-руску, да прыхажанаў гаворат па-руску а да сваіх дзіцей гаворат папольску? Ну, то што гэто такое? То ж польскі ксёндз то гаворыт і пропаведзь па-польску і да прыхажанаў гаворыт па-польску, ну да ўсяе свае радні, бо ён дзіцей ні мае права меці, таксамо гаворыт па-польску. Ну, а каб ён меў право меці дзяцей, то чы ж ён да іх не гаварыў бы па-польску? Я калісь гэто сказаў аднаму папэві. Ты знаеш, што ён мне атвеціў? Ён атвеціў так: „Не твоего ума дело!" От бачыш, як мне поп вытлумачыў гэту справу.

Мне то здаецца так, што так доўго, як доўго беларусы ні будут меці такого духавенства як палякі, то так доўго мы ні будзем меці такое родзіны як палякі. Значыцца, такое, у каторай усё будзе беларускае.

Я то ў Польшчы ніколі ні жыў, ну кроме таго часу як быў у рускай арміі і служыў у Модліне. То я там ніякае связі з польскімі ксяндзамі ні меў. Але аб іх сілі то я ўбедзіўся тады, калі мне тыя палякі, што служылі ў рускай арміі, расказалі, чым займаюцца ксяндзы. А займаліся яны ўсім і сільно лезлі ў душу каждого паляка. Калі гаварыці шчыро, то я ні хацеў бы, каб нашы папы так моцно як ксяндзы ўмешываліся ў лічнэ жыцце чалавека. У нас то найчасцей папы ні лезут у асабістэ жыцце чалавека і мне гэто наравіцца. Але тое, што нашы папы ўвогуле ні памагают беларусам быці беларусамі, то гэто мне ні наравіцца. Ну, але я знаю толькі тых папоў, каторы ест у Юшкавым Грудзе, у Нараўцы, у Міхалове. А можэ дзесь у другіх меснасцях ест такіе, каторы моцно стаят за беларусаў. Калі б так было то было б яно вельмі добрэ. А найважнейшэ то тое, каб біскупы і мітрапаліт былі добрымі беларусамі. Калі будзе так, то яны могут даці прыказ тым папам, каторы сідзят у парахфіях і тады было б усё добрэ. Але, відно, паколь што такіх прыказаў німа, а можэ ест, але іх ніхто ні слухае. Ну якое духавенство мы маем, такое маем. Трэбо знаці, што каб яго ні было вогуле, то ксяндзы ўжэ даўно нас на поўных палякаў перарабілі б.

Я бачу, што ты ўсё гэто запісуеш і можэ надрукуеш у кніжцы. Ні рабі гэтаго. Я то ні баюсе, мне ужэ ніхто нічого ні зробіт. Я стаю над магілаю. Але на цябе то могут накінуцца. Бо знай, што разнэ жульё то ні любіт праўды і склявешчэ ні мяне, але цябе, а як ні баішся, то друкуй".

**Алесь Барскі**

ПАРНАС: ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕЗАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

## Паратунак

Зямля. Жыццё. Народ. Натоўп.
Крычу: „Хачу жыць! Ратунку!" —
Няма!
Хаджу, шукаю чалавека. Каб ратаваў,
Падаў мне сваю руку. Няма нікога.
Пустыня бязлюдная і бязводная.
Голас мой не даходзіць да тлуму.
Толькі Той, Хто стварыў
Зямлю, жыццё, народ, пустыню
Можа мне дапамагчы,
Уратаваць мяне, суцешыць маю душу.
Бо дагарае мая душа — надламанае
сцябло,
Недапалены пень у зруйнаваным лесе.
Не дай мне зламацца.
Не дай мне згарэць.
Уратуй маё карэнне,
Выпусці новыя парасткі
На новыя галіны,
Каб выдаць мне новыя плады,
Якім на гэтай зямлі
Жыцця і пустыні
Разрастацца і жыць.

**Іда Лукша-Кавалевіч**

## Як умею, так пішу

Пішу свае вершы —
Гатунак ненайлепшы;
Мо нават найгоршы і танны
Але не абманны.
Пішу як умею,
Хваліцца не пасмею.
Паўтараю часам словы
Сваёй вершаванай мовы.
Я не паэт і не аратар
А толькі ніўскі аматар.
Пішу, як сэрца дыктуе
Пра тое, што нас турбуе.
Пра культуру і роднае слова,
Пра вясковыя нашы размовы.
Каб нікога не абражаць
А толькі праслаўляць
Нашых паэтаў і навукоўцаў:
Беларускіх шчырых размоўцаў.
Скубнуць умею і сістэму
Ды гэта другая праблема.
Шлю паклон усім чытачам „Нівы",
Каб кожны не быў баязлівы.
Ганарыцеся роднай газетай
А кожны даб'еца сваёй мэты.
Нізка кланяюся перад вамі
І канчаю такімі словамі:
Няхай Гасподзь вас благаславіць,
Здароўе і шчасце дарыць.
На кожны дзень вам жадаю:
Няхай вас смутак мінае!

**Мікалай Панфілюк**

## Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. сталіца Нарвегіі, 8. беларускае возера, 9. мястэчка ў міжрэччы Дняпра і Прыпяці, 10. вялікі афрыканскі горад, 11. пустынны вецер, 13. слова, якое гучыць аднолькава з іншым, але адрозніваецца значэннем, 15. неразбярыха, 16. яўрэйская абшчына, 20. загадчык, 22. фаза Месяца, 23. прыток Дзвіны, 27. эстрадны калектыў, у якім выступаў Янка Крупа, 29. аматар загуляць, 30. расліна сямейства асаковых, 31. паркавае дрэва, 32. пара года, 33. лес паўночнай Еўразіі, 34. абрэвіятура заснаванай Леніным дзяржавы.

**Вертыкальна:** 1. частка твару, 2. гарантыя, залог, 4. Юльюш, польскі паэт (1809—1849), 5. рытуал, 6. да яго ключ, 7. за Уралам, 12. малады лес, 14. маладзіца, 16. хросная маці дзіцяці, 17. імя маладой жанчыны, што насіла ваду, 18. жаночае імя, 19. сталіца Ганы, 21. пісанне іконаў, 24. шасцігрошовік, 25. вялікі амерыканскі горад, 26. аднастайны гул, сігнал, 27. частка плуга, 28. танец.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 38 н-ра:**

**Гарызантальна:** шчотка, салома, маліна, Баку, сват, прапрадзед, джын, Калі, бязмен, нагода, калека.

**Вертыкальна:** Шчэрба, Кама, Сана, Маскат, лібералізм, Купрын, сведка, Джамна, лірыка, бяда, Енка.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх і Яўгену Бялькевічу з Чыжоў.**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 543. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Таронта (Канада), Епіскап Мікалай — 1.020 канад. дол.
4 544. Аляксандр Лаўрыновіч (Гайнаўка) — 10 зл.
4 545. Уладзімір Мінько (Гайнаўка) — 10 зл.
4 546. Галіна Юзючук (Гайнаўка) — 10 зл.
4 547. Сяргей Юзючук (Гайнаўка) — 10 зл.
4 548. Аляксей Мароз (Гайнаўка) — 10 зл.
4 549. Зінаіда Іванюк (Беласток) — 10 зл.
4 550. Анастасся Цімашук (Гайнаўка) — 10 зл.
4 551. Міхал Вішанка (Мікулічы) — 10 зл.
4 552. Міхал Байко (Гайнаўка) — 10 зл.
4 553. Хведар Амельяновіч (Варшава) — 16 зл.
4 554. Сакрат Яновіч (Крынкі) — 10 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.**

## Варта ведаць, што...

... лістапад апошні месяц восені. Яго назва звязана з поўным ападаннем лісця, што адбываецца ў гэту пару. Руская назва *ноябрь* паходзіць ад лацінскага *novem* (дзевяць); украінская — *листопад*; польская, чэшская, верхнелужыцкая і славенская — *listopad*; славацкая — *november*; стараславянская — *грудьнъ*; сербахарвацкая — *новембар, студени*; балгарская і македонская — *ноември*.

У сярэдзіне месяца пачынаюць прамярзаць глебы. Пераважае суцэльная нізкая воблачнасць, за месяц ясны ў сярэднім адзін дзень, у асобных пунктах бываюць два. У лістападзе, у параўнанні з вераснем, два разы памяншаецца колькасць вільгаці ў паветры. Выпадае снег, але яго покрыва яшчэ няўстойлівае. Часта бываюць туманы, у сярэднім туманных 5—8 дзён, у нізінах колькасць іх дасягае 10—12. Дзён з ападкамі 15—18. Халодны дождж змяняецца мокрым снегам.

У лістападзе да новых умоў рыхтуюцца жывёлы і птушкі. Пасяляюцца бліжэй да чалавека сініцы, сарокі, галкі, курапаткі. Адлятаюць чароды дзікіх галубоў, апошнія пералётныя качкі, белыя лебедзі, пра якіх кажуць: „лебедзь на носе снег нясе". У апусцелым лесе застаюцца пішчухі, попаўзні, дзятлы, сойкі. Звяры назапашваюць корм. Заканчваецца лінька. Засынаюць барсук і янотападобны сабака, большасць рыб, акрамя шчупака, акуня, ярша, мянтуза. Зайцы-бялякі трымаюцца ў лясным гушчары, пакуль не выпадзе снег. Насякомыя закопваюцца ў мох, глебу, пад апалае лісце, забіваюцца ў расколіны дрэў.

*Апрацоўка (Я.Ц.)*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Ужо даўно не пісаў табе, аднак напішу, што прыснілася ў ноч распусты і кахання. Было цудоўнае надвор'е, а я ішоў па алейцы. Раптам я адрываюся ад тратуара і ўзлятаю ўверх на вышыню паўметра. Лячу проста, людзі перада мною расступаюцца. Мне цудоўна. І так лячу я метраў трыста, а пасля быццам станаўлюся на тратуар і іду далей. Што гэта можа абазначаць? Добры сон ці дрэнны?

**А.Г.**

Мне прысніўся сон пра адну знаёмую, якой я якраз дапамагаю ў жыццёвай справе. Жанчына гэта загараваная, выглядае намнога старэйшай, чым у сапраўднасці. Без зубоў, хаця яшчэ даволі маладая, амаль без валос. Жыццё яе не песціла. А тут у маім сне яна выглядае, як прыгажуня. Валасы ў яе такія густыя і доўгія. Яны круцяцца і залацістага колеру. Жанчына запляла іх у тоўстую касу. Твар яе поўны і малады, зусім не такі паморшчаны, як у жыцці. Усе зубы на месцы. Бачу і яе мужа, з якім яна даўно не жыве. І ён таксама малады і прыгожы. Яна, як і ў жыцці, хацела прытуліцца да яго, пацалаваць, а ён, незразумела чаму, уцякаў ад яе. Я падумала, што, магчыма, ён сароміцца мяне.

**Міра**

А.Г.! Твой сон вельмі добры, хаця, як ты пішаш, спадарожнічала табе распуста. Адрывацца ў сне ад зямлі і лётаць — вельмі карысна. Абазначае гэта пасняховасць ва ўсіх задуманых справах.

Міра! Твой сон абазначае нейкі добры паварот у тваіх справах, якія, бадай, датычаць гэтай жанчыны. Тое, што ў сне яна была надта прыгожая, а асабліва мела прыгожыя валасы, абазначае, што нешта ўдасца. А можа нават будзе гэта нейкі матэрыяльны прыбытак. Толькі чаму гэтая халера не давалася прытуліцца да яго...

## Народны каляндар — лістапад

Па ўсіх святых — холад для ўсіх.

У лістападзе гола ў садзе.

Лістапад — змярканне года.

Да Казанскай не зіма, пасля Казанскай — не восень. Калі дождж на Казанскую — хутка зіма.

Змітраў дзень — зіма лезе на плячэнь. Святы Змiцер — ён на ўсё хіцер: солады салодзіць, піва робіць, сыноў жэніць, дачок выдаець. Калі цёпла ў гэты дзень, то зіма і вясна будуць цёплыя.

Лістападаўскія ночы да снегу цёмныя.

Ад Марцінавага дня пачынаецца зіма.

Снег у дзень Кузьмы і Дзям'яна абяцае будучай вясной вялікую паводку.

Позні асенні гром — позні снег.

Лістапад снегу надзьме — хлеба прыбудзе, а вадою разальецца — летам сена набярэцца.

У лістападзе кладзі капусту ў кадзі.

Калі на Матрону будзе іней на дрэвах — чакай маразоў.

Калі ў дзень Івана Міласцівага здарыцца снег або дождж, то працяглы час будзе цёпла.

Падборку зрабіў
**Янка Целушэцкі**

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Радкі з клічнікам!

Пачакайце!
А стрэлкі гадзінніка вiруюць, як
ашалелыя.

*

Толькі светаў!
А я ў адным, як птушаня ў
шкарлупіне.

*

Паварот!
А на прамой скончылася біяграфія.

*

Шторм!
Не чую, у вушах хвалі.

*

Не крадзі!
Я толькі дзялюся з бліжнім.

*

Бяскрайняя глыбіня!
А ў горле суха.

*

Шах, і мат!
А яшчэ круціцца.

*

Апамятайся!
А ці варта, калі свет шалее.

*

Дом валіцца!
Устаю, хай пачакае.

**Барыс Руско**

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Здароў, Сашка! Ці яшчэ ходзіш з гэтай чарнявaю Данусяй?
— Ужо не хаджу.
— Ну і добра. Учора даведаўся я ад сяброў, што яна — салодзенькая валацужка. А чаму яе кінуў?
— Я яе не кінуў, я з ёю ажаніўся.

* * *

— Прачытала я ўчора ў газеце, што адзін мужчына, які меў дзве жонкі, атрымаў два гады турмы.
— За кару ці для перадышкі?

* * *

— Ці ты чуў, што Андрэй ляжыць у шпіталі цяжка патурбаваны?
— Не можа быць!? Яшчэ ўчора бачыў яго ў кавярні з галантнай бландзінкай.
— Гэта праўда; яго жонка таксама бачыла.

* * *

Шпацыруе маладая пара перад шлюбам:
— Будзь асцярожная, залаценькая, тут балота, — гаворыць ён.
Месяц пасля шлюбу:
— Глядзі, міленькая, тут балота.
Шэсць гадоў пазней:
— Не бачыш, сляпая!? У балота лезеш!

* * *

Ён і яна едуць цягніком. Ён шырока пазяхае.
— Дзякую, што вы мяне не з'елі.
— Малпаў не ем.
— Гэта дзіўна, бо я думала, што свіння ўсё з'есць.

* * *

Муж да жонкі:
— Аж верыць не хочацца, што маем такога дурнога сына.
— Цяпер маеш ужо хіба выразны доказ, што гэта тваё дзіця.

* * *

У псіхолага:
— Ці ваша жонка любіць тое самае, што і вы?
— Наогул так, апрача бландзінак.

* * *

— Хацеў бы быць разам з Данусяй...
— А што гэтаму стаіць на перашкодзе?
— Адступіў яе Колі за дзве бутэлькі гарэлкі.
— І што, цяпер тужыш за ёю?
— Не, але зноў напіўся б.

* * *

— Толькі дрэннага начытаўся на тэму гарэлкі, што рашыў ужо раз назаўсёды з гэтым паканчыць.
— З піццём?
— Не, з чытаннем.

# НІЎКА

## Аб чым гавораць муры тысячагадовага Бельска?

Між іншым, аб тым, што павысілася там актыўнасць нацыянальных меншасцей, як зазначылі ў сваім бюлетэні гарадскія радныя з каталіцка-правага клуба „Jedność". Мы не ўпэўнены, што якраз гэтых надпісаў яны напалохаліся і будуць даваць ім адпор у чарговых нумарах свайго бюлетэня, але, паколькі graffiti — мастацтва надзвычай нетрывалае, прадстаўляем вось некаторыя з іх на здымках **Аліны Ваўранюк**.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Шаноўнае Сэрцайка! Яна думала, што я прафан. Усё афармляла паціху, ні я, ні мае бацькі нічога пра гэта не ведалі. Пару дзён усяго мінула, як згулялі вяселле. Гучнае, прыгожае — усё так, як трэба. На кошт маіх бацькоў, бо ў яе маці, вядома, грошай не было, а бацька з імі не жыў, а да таго любіў выпіць. Нават футра мае бацькі ёй купілі, каб мела ў чым паказацца на шлюбе. Дом нам цэлы далі, самаход.

Ці яна прыгожая? Мне падабалася. На выгляд была такая адданая, што ніхто не мог бы паверыць у яе няшчырасць. У тры дні па шлюбе знаёмы з адной установы спытаўся ў мяне: „Дык што, твая едзе ў Амерыку?" Я ў недаўменні паставіў на яго вочы: „Куды?"

Сэрцайка, бадай і ты б аслупянела. У маёй сям'і такое не здаралася. Прынамсі ў большых справах бацькі заўсёды раіліся. А я нічога не ведаў. Навошта ёй тая Амерыка, калі сяброўкі яе казалі, што „Амерыку" яна мае тут. Ні я, ні мае бацькі нічога не разумелі. Нібы хадзілі мы з ёй цэлы год, нібы кахаліся, а тут не паспелі пажаніцца, як яна ўжо кудысьці едзе.

Ну, але што было рабіць? Хоча — няхай едзе. Растлумачыла мне, што не хоча быць жабрачкай, што і яна мусіць унесці сваю долю ў нашу сям'ю, калі яе бацькі нічога ёй не далі. Дзіўная пастава, бо мае бацькі ніякіх прэтэнзій да яе за гэта не мелі, а мне яна была і так мілая.

І так не было маёй жонкі амаль цэлы год. Усе знаёмыя дзівіліся: факт неспатыканы, каб на мядовы месяц жонка ўцякала заграніцу. Мне было ніякавата, але я працаваў са стаічным спакоем. Вярнулася мая жонка крыху раней, чым меркавала. Думала быць там год, а прабыла дзесяць месяцаў. Усё было нават быццам нармальна месяц часу. Пасля накіравалі мяне на тры тыдні ў камандзіроўку ў другі канец Польшчы.

Прыехаўшы, я атрымаў рахунак за тэлефон, які значна перавышаў мой месячны заробак. Я спытаўся ў жонкі, што гэта абазначае. Яна здзіўлена паціснула плячыма і сказала, што, пэўна, як заўсёды гэта памылка. Ну, і кажу табе, Сэрцайка, што я не прафан. Знайшоў знаёмага ў нашым мястэчку і на пошце. Высветлілася, што ўсе тэлефонныя размовы былі заказаны на адзін і той жа нумар у Амерыцы. Невядома, хто гэта, і невядома, што гэта. Да нічога мая жонка не прызналася.

Вядома, у мяне ўзніклі пэўныя падазрэнні. Я вырашыў, што яна там некага знайшла. Мае ж бацькі цвярдзяць адно, што быў у яе там нехта раней. Нездарма яна так рвалася ў тую Амерыку. Мушу табе прызнацца, што сям'я яе наогул не вельмі цікавая, хаця мая жонка і атрымала вышэйшую адукацыю. Выхавання ёй гэта не дало. Па-мойму, інтэлігентны чалавек такіх фокусаў не робіць. Дык бадай не здзівішся, Сэрцайка, што я яе з хаты проста выгнаў. Сказаў: бяры што хочаш, толькі сыдзі мне з вачэй.

Скажу табе праўду: яна нічога не хацела. Сабрала свае рэчы і пайшла да мамы. Мае бацькі гавораць, што я павінен хутчэй падаваць на развод, бо яшчэ скамбінуе з кімсьці дзіця, а я буду плаціць аліменты. Ну, я падаў, яна адразу згадзілася, а цяпер, калі ўжо дайшло што да чаго, дык яна перадумала. Мае бацькі непакояцца, што яшчэ крыху, а яна пачне дзяліць маю маёмасць. Сам ужо не разумею, у што я ўліп.

**Сяргей**

Сяргей! Сапраўды сітуацыя твая незайздросная. Дзяўчына магла мець нейкага хлопца перад знаёмствам з табою, а той, як і многія іншыя, што выязджаюць заграніцу, абяцаў яе пасля „выпісаць" і ажаніцца з ёю. Але так, як і іншыя, паехаўшы, пра яе забыўся. І так яна рвалася ў тую Амерыку, не зважаючы на толькі што наладжанае вяселле, каб даказаць яму, што ўсё ж такі яна замуж выйшла і цяпер плюе на яго. Ну, а што ўжо там было пасля — толькі Бог і яна па-сапраўднаму ведаюць. Мы можам толькі здагадвацца, што было ёй даволі прыемна (не ведаю, ці весела, бо можа хлопец меў ужо яе намесніцу). Але прыемна мусіла быць, калі не пашкадавала столькі грошай на тэлефоны.

Думаю, што ад такой манюкі нічога добрага нельга спадзявацца. Бацькі табе раяць слушна.

**СЭРЦАЙКА**